Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Ашмяны
Вілейка
Маладзечна
Валожын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

27 лютага 2015 года №9 (1035)



**Чалавекам года ў Вілейцы стала Таццяна Цітуленка**

Упершыню тытулам уганаравалі за грамадскую дзейнасць старонка 2





**Змагацца даводзіцца і са сваркамі, і з кактусамі**

Скрадзеныя грошы з банкамата, сямейныя скандалы са збіццём, пах ацэтону ў пад’ездзе. Гэта толькі адзін працоўны дзень участковага міліцыянера старонка 5

**З-за гарантыі купіў пілу ў краме… і расчараваўся** с. 3

**Барселона для турыста гарачая нават зімой. Што паглядзець і колькі грошай рыхтаваць** с. 21

**Легендарная “трэнажорка” працуе ў Маладзечне 40 год** с. 22


## Бясплатна пакажуць фільм пра балоты

**СМАРГОНЬ.** Паказ пройдзе ў суботу, 28 лютага, у цэнтральнай бібліятэцы а 17-й гадзіне. Памочніца рэжысёра фільма “Подых балот” **Настасся Якавіцкая** сама са Смаргоні, распавяла загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі **Зоя Дурэйка**. Дакументальны фільм распавядае пра лёс балот, што трапілі ў чорны спіс, прызначаных для асушэння. Гледачы змогуць пачуць апавяданні мясцовых жыхароў пра тое, як змянілася іх жыццё і родныя мясціны з-за асушэння тарфянікаў.

## Схапіў процівагаз і кінуўся ратаваць

**АШМЯНЫ.** Здарэнне адбылося раніцай 20 лютага ў вёсцы Даўкшышкі. 35-гадовы **Віктар Сухалет** збіраўся на працу. Выпадкова ў акне ўбачыў полымя і зразумеў, што ў суседа пажар. Напярэдадні той атрымаў пенсію і выпіваў з сябрамі. Мужчына выклікаў пажарных, схапіў процівагаз і кінуўся на дапамогу. На падлозе каля ложка знайшоў гаспадара і выцягнуў на паветра. Выратаваны прыйшоў у сябе. Цяпер пенсіянер будзе жыць у доме для састарэлых у вёсцы Жупраны. Дарэчы, процівагаз Віктару дастаўся ад бацькі. Ён быў ваенным фельчарам і калісьці сказаў: “Не выкідай, сынок, мой стары процівагаз, спатрэбіцца”. Пра гэта паведаміла Гродзенскае абласное ўпраўленне па надзвычайных сітуацыях.

## 23 лютага на дарогах затрымалі 101 нецвярозага кіроўцу

Толькі за адны суткі, 23 лютага, на дарогах краіны адбылося 245 аварый з матэрыяльнымі стратамі. У 10 дарожных здарэннях тры чалавекі загінулі і восем атрымалі раненні. У гэты ж дзень было каля 6000 парушэнняў правілаў дарожнага руху. За перавышэнне хуткасці аштрафавалі 1026 кіроўцаў. 400 вадзіцеляў і пасажыраў праігнаравалі абавязковае патрабаванне аб прышпільванні рамянямі бяспекі. За парушэнне правілаў дарожнага руху да адказнасці прыцягнулі 1132 пешаходы, з іх 449 – за адсутнасць святлоадбівальных элементаў у цёмны час сутак.

## Юрыст і псіхолаг пракансультуюць жанчын бясплатна

**МАЛАДЗЕЧНА.** Такую акцыю да Дня жанчын ладзіць бібліятэка “Верасок”. Кансультацыю можна атрымаць 3 сакавіка, у аўторак, у 16:30 у бібліятэцы па Вялікім Гасцінцы, 121. Тэлефон для даведак: (80176) **760656**.

**Аддзел інфармацыі.**



# Насмерць збіў пешахода і ўцёк з месца здарэння

## Пасля аварыі кіроўца спрабаваў схаваць сляды злачынства: паставіў машыну ў лесе, зняў нумары



Фота забяспечана УДАІ УУС Мінаблвыканкама.

23-гадовы малады чалавек пасля таго, як збіў на дарозе чалавека, хаваў сваю “Мазду” ў лесе.

**МАЛАДЗЕЧНА. Два месяцы таму яго пазбавілі правоў за кіраванне ў стане алкагольнага ап’янення.**

Аварыя адбылася 23 лютага а палове дзявятай вечара на вуліцы Лясной.

23-гадовы маладзён на аўтамабілі “Мазда” ехаў з Чыгуначнай у накірунку Шаранговіча, выехаў на паласу сустрэчнага руху. У сустрэчным накірунку па левым краі праезнай часткі ішоў 27-гадовы мужчына. Кіроўца наехаў на пешахода і знік. Праз некаторы час яго затрымалі.

Пацярпелы памёр на месцы здарэння. Ён не быў абазначаны флікерам.

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра здарэнне расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

### Знаёмыя гавораць пра загінулага

Маладога чалавека звалі **Сяргей**.

**Кацярына Кулага** ведае яго год пяць. Яны жылі па суседства.

– Ён быў вельмі добрым знаёмым майго мужа, яны сябравалі з дзяцінства, – расказвае Кацярына. – Як чалавек Сяргей быў спагадлівы, без праблем мог дапамагчы, падтрымаць добрым словам.

Як гаворыць Кацярына, маладога чалавека збілі прыблізна ў 40-50 метрах ад дома, дамоў пяць засталося прайсці.

Ён не быў жанаты, не меў дзяцей. У яго засталіся маці і старэйшая сястра. Малады чалавек быў добрым будаўніком, чым і зарабляў грошы.

**Валянціна Бажэлка** вучылася з Сяргеем да дзявятага класа ў школе №9 у Маладзечне. Потым Сяргей паступіў у каледж. Жанчына ўзгадвае яго як добрага і спагадлівага хлопца.

– У школе ён вельмі любіў працоўнае навучанне, рабіў рукаяткі, табурэткі, днушкі. Яго сябар часта крыўдзіў мяне, а Сяргей спрабаваў абараніць, паводзіў сябе як сапраўдны мужчына.

Жанчына адзначае, што ў Сяргея было шмат сяброў.

**Галіна СІНІЦА.**




Карта Настассі РОЎДЫ.

Здарэнне адбылося ў Маладзечне на вуліцы Лясной.

АСОБЫ

# Чалавекам года стала Таццяна Цітуленка

**ВІЛЕЙКА. Упершыню тытулам уганаравалі за грамадскую дзейнасць. Сама перaможца лічыць такі крок прызнаннем аўтарытэту грамадзянскай супольнасці і верай у яе эфектыўнасць і развіццё.**

Вынікі конкурсу "Чалавек года" на Вілейшчыне падвялі ў пятніцу, 20 лютага, на злёце перадавікоў сельскай гаспадаркі.

### Стварыць "ЗОВіК" было наканавана лёсам

Таццяна Цітуленка – старшыня грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна "ЗОВіК". Адначасова яна намеснік начальніка па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама, начальнік аддзела занятасці.

У красавіку "ЗОВіК" адзначыць тры гады існавання, за гэты час арганізацыя змагла многае палепшыць на Вілейшчыне.

На стварэнне аб'яднання Таццяну Цітуленку натхніла тое, наколькі запатрабаваным стаў Віллянін хутар. Менавіта яна – аўтар праекта гэтай турыстычнай пляцоўкі, якая стала месцам шматлікіх святаў і сямейнага адпачынку для віляйчан.

Адмысловае грамадскае аб'яднанне, якое займалася б падобнымі праектамі, пачалося з таго, што чацвёра нераўнадушных віляйчан вырашылі супольнай працай змяніць Вілейку да лепшага. А адбылося гэта такім чынам:

– Наша аб'яднанне нібы прадвызначана лёсам, – прыгадвае Таццяна Цітуленка. – Самі глядзіце. Аднойчы іду я па плошчы Леніна, сустракаю **Сяргея Ганчара**, дырэктара музея. Распавяла пра сваю задуму, пагаварылі, ён адразу пайшоў насустрач, сказаў, што будзе рады далучыцца. Іду далей – сустракаю **Дзмітрыя Бобрыка**, ён таксама толькі "за" быў. А далей сустрэла **Андрэя Дударчыка**, начальніка міліцыі грамадскай бяспекі. Ён кажа, што я прапанову з языка зняла, што сам думаў арганізаваць які-небудзь грамадскі фонд. Уяўляеце, нібы вышэйшыя сілы нас звялі.


Фота з асабістага архіва Таццяны ЦІТУЛЕНКІ.

Таццяна Цітуленка ганарыцца тым прызнаннем, якое атрымала работа грамадскага аб'яднання "ЗОВіК" пад яе кіраўніцтвам.

### Праект за праектам могуць змяніць Вілейку да лепшага

Сваё аб'яднанне назвалі "ЗОВіК". Расшыфроўваюць у двух варыянтах: заядлыя аптымісты Вілейкі і кампанія, ці заядлыя аптымісты сусвету і кампанія.

З цягам часу ў аб'яднанне далучыліся і іншыя актывісты. Удзельнікі "ЗОВіК" бачаць мэтай прыцягнуць увагу да Вілейшчыны як да турыстычнага цэнтра. Яны працуюць над развіццём раёна ў трох кірунках: экалогія, сацыяльная сфера і эканоміка.

Удзельнікі аб'яднання пачалі цікавіцца жыццём грамадскіх арганізацый, грантавых праектаў. Самі пачалі падаваць заяўкі на ўсе магчымыя гранты, якія маглі б фінансаваць іх ідэю палепшыць жыццё ў Вілейшчыне.

Першы грант атрымаў праект "Ачысцім малую Пляснянку – выратуем Балтыйскае мора". На яго выдаткавалі 50 тысяч еўра.

Другі праект "Дай ровару рух" мае на мэце развіццё веламаршрутаў і папулярызацыю ровараў. У яго межах высвятлялі праблемы для веларыстаў, цяпер ладзяць конкурс роварных парковак.

Яшчэ адзін праект папулярызуе неабходнасць уважлівa распараджацца смеццем. У яго межах распрацавалі экскурсійны маршрут ад сметніцы да сметніцы.

– Асабіста я не імкнуся за дыпломамі і ўзнагародамі, – расказвае Таццяна пра тое, што званне значыць для яе. – Але для мяне як старшыні "ЗОВіКа" гэта бясцэнны тытул. Тое, што яго атрымала я, гаворыць пра імкненне да дапамагчы грамадзянскай супольнасці. У нас мора ідэй, і мы можам іх увасабляць. Я ганаруся, што нашу работу заўважылі і так высока ацанілі. Тое, што мясцовая ўлада нас падтрымлівае, вельмі многае дае. Мы зразумелі, што ўсяму трэба вучыцца. І ў выніку зможам дасягнуць таго, да чаго імкнёмся – развіцця экатурызму, здаровай прыроды, чыстай вады. Зразумеем важнасць зялёнай эканомікі, а не той, на якой заробіш рубель, а тры аддасі на аднаўленне здароўя ад наступстваў. Вілейшчына зможа стаць месцам, куды прыемна прыехаць і адпачыць.

Летась тытул "Чалавек года" атрымаў мастак **Эдуард Мацюшонак**.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Андрэй Дударчык пра "Рэгіянальную газету"

**У красавіку "Рэгіянальная газета" адзначае сваё 20-годдзе. Напярэдадні гэтай падзеі нашы пастаянныя чытачы, а разам з тым героі публікацый, пазаштатныя аўтары кажуць колькі слоў пра выданне.**

Госць гэтага нумара – намеснік начальніка Вілейскага РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. Ужо шмат гадоў запар ён не толькі чытае газету, але дапамагае ё рабіць. Шмат звестак для публікацый, якія з'яўляюцца пераважна на старонцы "Вакол здарэння", падказвае менавіта ён.

– Гэта выданне адрозніваецца ад іншых. Мне падабаецца, што газета перыядычна мяняе свой стыль. Пакуль гэта не "Гардыян" ці штосьці ў гэтым духу, але, дасць бог, стане. "Рэгіянальная газета" мае на гэта права.

Шмат выданняў падае інфармацыю аднабакова. Аднак быць лаяльным складаней, чым радыкальным. Вы ж лаяльныя, і калі чытаеш вашы артыкулы, пачынаеш над імі думаць. Умець сказаць "так", калі ўсе кажуць "не", і наадварот – вось гэта сапраўдны прафесіяналізм. І такой я лічу "Рэгіянальную газету".

Жадаю поспехаў, добрых набыткаў, каб газета ўвесь час рабілася больш насычанай.

Галоўнаму рэдактару і заснавальніку газеты **Аляксандру Манцэвічу** – творчага даўгалецця і энергіі, каб газета і надалей існавала і развівалася.

Гэтак жа, як чалавеку здароўя, жадаю вам усім творчага жыцця. Трымаць нос па ветры, згладжваць вострыя вуглы. Знаходзіць новыя спосабы, каб данесці інфармацыю.

Зычу заўсёды каркэтна і якасна даваць усе факты. І галоўнае, рабіць гэта цікава. Каб абуджала замылены позірк. А мы вам дзесьці падкажам і дапаможам!

**Настасся РОЎДА.**

НАШЫ ГРОШЫ

## Сярэдні заробак у краіне знізіўся да 400 долараў

**Паводле падлікаў Белстата, сёлета ў студзені сярэдні заробак склаў 6 мільёнаў 23 тысячы 200 рублёў. Лічба апусцілася ў параўнанні са снежнем на 11,5%.**

На рукі "чыстымі" работнікі атрымлівалі 5,18 мільёна рублёў, што складае каля 350 долараў.

Заробкі апусціліся на ўзровень пачатку 2012 года.

Менш у Еўропе зарабляюць толькі ва Украіне і Малдове.

**Паводле "Нашай нівы".**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## Дырэктар таварыства па незаконнай схеме оптам гандляваў аўтазапчасткамі

**АШМЯНЫ. АСТРАВЕЦ. СМАРГОНЬ. Нявыплачаных падаткаў і збораў налічылі каля 200 мільёнаў рублёў.**

Работнікі Смаргонскага міжрайкамітэта фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю знайшлі, што кіраўнік таварыства з абмежаванай адказнасцю ў Ашмянскім раёне ўхіляўся ад выплаты падаткаў. Узбудзілі крымінальную справу.

Каб займацца аптовым гандлем аўтамабільных дэталяў, вузламі і прыладамі для сельскагаспадарчай тэхнікі і грузавога транспарту, 39-гадовы мужчына зарэгістраваў прадпрыемства ў 2012 годзе. Да гэтага ён працаваў разам з братам, індывідуальным прадпрымальнікам.

Аптавік гандляваў спецыфічнымі аўтазапчасткамі. Асноўнымі пакупнікамі былі аграпрамысловыя прадпрыемствы з Ашмянскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў.

Але весці бізнес па правілах дырэктар і адначасова заснавальнік таварыства не спяшаўся.

Каб ухіляцца ад падаткаў, ён цягам двух гадоў наўмысна перадаваў бухгалтэрыі дакументацыю з непраўдзівымі звесткамі пра фінансава-гаспадарчыя аперацыі, якія праводзіў з дапамогай ілжывапрадпрымальніцкіх структур.

На самой справе прадукцыю, афармленую ад імя падстаўных кампаній, набывалі за наяўныя грошы ў Расіі.

Дзеянні дырэктара прывялі да наўмыснага зніжэння падатковай базы і нанеслі дзяржаве шкоду каля 200 мільёнаў рублёў.

Па выніках праверкі ў адносінах да кіраўніка таварыства ўзбудзілі крымінальную справу за ўхіленне ад выплаты падаткаў і збораў.

**Паводле паведамлення Камітэта дзяржкантролю Беларусі.**

ГРАМАДСТВА

## Адбудзецца паўторны аўкцыён па продажы ААТ "Маладзечнапіва"

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён пройдзе 6 сакавіка. Першапачатковая цана зніжаная на 8,8%, да 15,5 мільярда рублёў.**

Зямельны ўчастак мае плошчу ў тры гектары. У яго склад уваходзяць вытворчы і дадатковыя цэхі, магазін, свідравіна мінеральнай вады, аўтатэхніка, абсталяванне прадпрыемства.

У залогу (іпатэцы) знаходзіцца цэх па вытворчасці безалкагольных напояў і аднапавярховы цэх вінаробства.

Пасля продажу маёмасці прадавец абяцае выплаціць даўгі банкам.

**Паводле Tut.by.**


Фота dic.academic.ru

Маладзечанец Леанід Гізулеўскі нядоўга карыстаўся новай бензапілой.

● МАЮ ПРАВА

# З-за гарантыі купіў пілу ў краме... і расчараваўся

**МАЛАДЗЕЧНА. Леанід Гізулеўскі набыў бензапілу ў маладзечанскай краме. Думаў, хоць і даражэй, чым у кагосьці з рук, затое надзейней. Здарыцца што – гарантыя ёсць. Аднак на справе аказалася інакш.**

– Некалькі разоў пакарыстаўся – не пайшла аліва на ланцуг. Аднёс бензапілу назад, каб адрамантавалі па гарантыі. А яны мне кажуць, што сам вінаваты. А як жа сам? Так можна кожнага вінаватым ва ўсім зрабіць. Паламаўся тэлевізар – зашмат глядзеў. Халадзільнік не працуе – зашмат мяса паклаў", – абураецца спадар Леанід.

Хутка будзе год, як не вырашаецца яго праблема. Бензапілу ён аддаў у краму на праверку, і да гэтуль яна ляжыць там. Сказалі, аліву дрэнную заліў. Але спадар Леанід не згодны, бо свае інструменты трымае ў належным парадку.

Набываў пілу за 1 мільён 650 тысяч рублёў. Рамонт жа яе можа абысціся ў 200 тысяч рублёў.

### Што рабіць у такой сітуацыі

Тлумачыць начальніца аддзела гандлю і паслуг Маладзечанскага райвыканкама **Ірына Крук**.

Толькі спецыяліст можа вызначыць, пакупнік зламаў тавар ці ён быў няякасным ад пачатку. Згодна з Законам аб абароне правоў спажыўцоў, крама мусіць правесці экспертызу і высветліць гэта пытанне. Закон вызначае для гэтага пэўныя абмежаванні ў часе.

Пакупнік і прадавец заключаюць пісьмовую дамову аб тым, што бензапіла падчас праверкі будзе знаходзіцца ў краме.

У выпадку, калі па выніках экспертызы крама лічыць, што вінаваты пакупнік, а пакупнік не згодны, апошні можа правесці незалежную экспертызу. Зразумела, за ўласныя грошы. Абіраць для гэтага варта сэрвісныя цэнтры, якія маюць права выдаваць даведку аб якасці рэчы.

Калі экспертыза паказа, што прадукт першапачаткова быў няякасны, пакупнік можа з гэтымі дакументамі ісці ў суд. Ён можа вымусіць краму сплаціць грошы і за пілу, і за экспертызу.

Як зазначае Ірына Крук, варыянт гэты няпросты. Аднак грошы з касы ў прадаўца сам не дастанеш.

– Да нас часта звяртаюцца людзі з такімі праблемамі і непаразуменнямі, – кажа Ірына Крук. – Часам здараецца, што людзі сапраўды няправільна эксплуатуюць тавар. А бывае, што з такіх паломак шукаюць сабе выгаду. Не проста ж так з'явілася паняцце спажывецкі экстрэмізм.

Калі пакупнікі маніпулююць заканадаўствам аб правах спажыўцоў, каб займець уласную выгаду.

### Дзе шукаць дапамогі і кансультацый

Леанід Гізулеўскі звярнуўся па дапамогу ў маладзечанскае грамадскае аб'яднанне па абароне правоў спажыўцоў.. Тут яму дапамаглі скласці прэтэнзію і накіраваць яе прадаўцу. Аднак крама лічыць, што выпадак не гарантыйны, а значыць, праблему мусіць вырашаць сам пакупнік.

Тады грамадскае аб'яднанне ад імя спадара Леаніда падрыхтавала іск у суд. У бліжэйшы час пройдуць судовыя пасяджэнні. Пакуль жа невядома, чым скончыцца гэтая справа.

**Настасся РОЎДА.**

● У ЦЭНТРЫ ГІГІЕНЫ

## У чарніцах з-пад Вязыні цэзій у 15 разоў перавысіў норму

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Радыяцыю знайшлі ў грыбах і ягадах з Вілейшчыны.**

Маладзечанскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, паводле вынікаў радыяцыйнага кантролю за 2014 год, ацэньвае абстаноўку на Маладзечаншчыне стабільнай.

На ўтрыманне радыенукліду цэзію-137 правялі 125 пробаў з вытворчага сектара. Сярод іх – прадукты, лекі, вада. Усе пробы адпавядалі нормам.

З прыватнага сектара даследавалі 74 пробы. Радыяцыйнае забруджванне знайшлі ў дзвюх з іх. Прычым уся прадукцыя Маладзечанскага раёна была чыстая. Перавышэнні дапушчальнага узроўню былі ў адвараных грыбах, сабраных у лесе каля вёскі Хаценчыцы Вілейскага раёна (цэзій перавышаў норму ў 6,2 раза), а таксама ў сушаных чарніцах з-пад Вязыні (перавышэнне ў 15,4 раза).

Кантралявалі радыяцыю пры адводзе дзевяці зямельных участкаў пад будаўніцтва. Гама-фон на іх не перавышаў натуральны ўзровень для адкрытай мясцовасці.

Абследавалі 158 аб'ектаў, каб пракантраляваць утрыманне радону ў паветры. Два аб'екты далі нязначнае перавышэнне. Пасля працы з вентыляцыяй падчас паўторных замераў парушэнняў не было.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ, доктар-гігіеніст.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

Брытанская асацыяцыя спажыўцоў прааналізавала бытавую тэхніку, якая зламалася ў першы год працы

**30%** Самы высокі працэнт паломак сярод пральных машын з сушылкамі

**4%** Самы малы – сярод мікрахвалевых печак

Паводле Беларускага таварыства абароны спажыўцоў

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ

| Курсы валют НБ РБ | 19.02 | 26.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 910,00 | **14 920,00** |
| Еўра | 16 930,00 | **16 970,00** |
| Злоты | 4 039,50 | **4 075,11** |
| Расійскі рубель | 238,00 | **239,00** |
| Грыўня | 563,71 | **445,37** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 25.02** | | |
| Еўра | 16900/17250 | **16770/17030** |
| Долар ЗША | 14850/15070 | **14800/15000** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.02 | 18.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **24800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39900** |
| Селядзец, 1 кг | 42000 | **42000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105000 | **105000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13200 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **3900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14200 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 6500 | **5800** |
| Морква, 1 кг | 6500 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Лімоны, 1 кг | 26900 | **26900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19500 | **19500** |
| Мандарыны, 1 кг | 22900 | **23900** |
| Памідоры, 1 кг | 32900 | **29900** |
| Агуркі, 1 кг | 33900 | **33900** |
| Перац, 1 кг | 39900 | **43900** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 24900 | **21900** |
| Хурма, 1 кг | 29900 | **39900** |
| Яблыкі, 1 кг | 7900 | **7900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 27500 | **24500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |



Астравецкія хлопцы і дзяўчаты хацелі весела правесці час. Калі ўцямілі, што нарабілі, іх ужо шукала міліцыя.

КРЫМІНАЛ

# Пілі і каталіся на скрадзеным аўто

**АСТРАВЕЦ. 27-гадовы жыхар вёскі Бярозаўка быў у гасцях у прыяцеля ў вёсцы Нідзяны.**

Мужчыны выпівалі. Калі гаспадар заснуў, маладзён узяў ключы ад машыны і паехаў катацца па навакольных вёсках. У іх ён набіраў сабе спадарожнікаў.

Спачатку малады мужчына паехаў у суседнюю вёску да стрыечнага брата. З ім паехалі далей. На прыпынку спыніліся, каб узяць двух хлопцаў, якія прасіліся падвезці да Катлоўкі. Новыя спадарожнікі па дарозе пачаставалі братоў гарэлкай.

У сваю кампанію вырашылі ўзяць у адной з вёсак дзяўчат. Працягвалі катацца і выпіваць. Калі спіртное скончылася, дзяўчаты пайшлі дадому. Выпадковыя спадарожнікі выйшлі ў Катлоўцы.

Калі, нарэшце, 27-гадовы маладзён уцяміў, што нарабіў, вырашыў паставіць машыну на месца. Ён выключыў асвятленне і паціху прыгнаў машыну, а пасля пайшоў спаць. Але яго і скрадзеную машыну ўжо шукала міліцыя.

Гаспадар аўто прачнуўся пасярод ночы, убачыў, што ні машыны, ні сабутэльніка няма, звярнуўся ў міліцыю.

У міліцыі маладзён прызнаўся ў зробленым.

Пра здарэнне расказаў супрацоўнік прэсслужбы кіравання ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама **Міхаіл Кузняцоў**.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

СЛУЖБА 101

## У Хоўхлаве згарэў нежылы дом

**МАЛАДЗЕЧНА.** Днём 22 лютага на цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне аб загаранні ў нежылым доме ў вёсцы Хоўхлава.

Па прыбыцці да месца выкліку выратавальнікі ўбачылі, што дом гарыць адкрытым полымем, дах праваліўся ўнутр дома. Людзей там не было.

У выніку пажару дах знішчаны цалкам, таксама знішчаны перакрыцці, у доме закураны сцены.

Гаспадара на момант узнікнення пажару ў доме не было. Са слоў суседзяў, каля двух гадоў ніхто не жыве ў гэтым доме.

Прычына пажару высвятляецца.

**Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

## Гарэў малочна-даільны блок на Мядзельшчыне

**МЯДЗЕЛ.** Пажар адбыўся ў Новіках Сваткаўскага сельсавета.

Выратавальнікам патэлефанавалі 23 лютага а палове сёмай вечара.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

Ні людзі, ні жывёла не пацярпелі.

Пра здарэнне паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага МНС **Ігар Прахаровіч**.

**Галіна СІНІЦА.**

РЫБАЛОЎСТВА

## За аднаго шчупака можна заплаціць каля двух мільёнаў

**Ад 1 сакавіка да 15 красавіка ва ўсіх абласцях рэспублікі забаронена лоўля шчупака.**

Выпадкова злоўленая рыбіна павінна быць выпушчаная ў ваду ў непашкоджаным выглядзе. У адваротным выпадку такі ўлоў можа каштаваць рыбаку 1 мільён 620 тысяч рублёў. І дадатковa штраф ад 20 да 50 базавых велічынь за лоўлю рыбы ў забаронены час.

Калі вы сталі сведкам парушэння закона, тэлефануйце на "гарачую лінію" Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефоне, які працуе кругласутачна: **(80176) 77-82-93.**

**Кірыл ЧЭБАН, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

ЗДАРЭННІ

## Забіў 25-гадовага мінчаніна, які ляжаў на дарозе

**ВАЛОЖЫН.** Каля вёскі Сакаўшчына Валожынскага раёна раніцай 22 лютага кіроўца мікрааўтобуса "Фольксваген-Транспарцёр" наехаў на жыхара Мінска.

25-гадовы малады чалавек ляжаў на праезнай частцы.

Пра гэта распавяла інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ Мінскай вобласці **Ірына Сапунова.**

Здарэнне адбылося каля 6 раніцы. Аўтамабілем кіраваў 20-гадовы маладзён.

Ад атрыманых пашкоджанняў пешаход загінуў на месцы. На ім не было флікера.

Валожынскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

## Абакралі трактары

**МАЛАДЗЕЧНА.** 22 лютага галоўны інжынер аграфірмы "Лебедзева" звярнуўся ў міліцыю, што ў ноч на 22 лютага з незачыненых кабін двух трактароў невядомы выкраў два блокі кіравання гідрасістэмай і блок кіравання рухавіком.

Невядомы прычыніў шкоду на суму 40 мільёнаў рублёў. Узбуджаная крымінальная справа. Праводзіцца праверка. Па папярэдніх дадзеных, злодзей не працуе ў аграфірме.

Пра гэта паведаміў старшы следчы Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Сужыцелі пілі тры дні – скончылася нажавым раненнем

**МАЛАДЗЕЧНА.** 23 лютага а палове сёмай раніцы ў Маладзечанскую цэнтральную раённую бальніцу прывезлі 45-гадовага мужчыну з пранікаючым раненнем.

Падчас спрэчкі 23 лютага сужыцелька схапіла нож і ўдарыла яго адзін раз у жывот. Пасля пайшла да суседкі, папрасіла выклікаць "хуткую дапамогу".

Разам сужыцелі прыехалі на дачу ў вёску Загорцы Маладзечанскага раёна 20 лютага. Пілі на працягу трох дзён, часам спрачаліся.

41-гадовая жанчына расказала, што сужыцель яе часам збіваў.

І жанчына, і мужчына – мінчане, яны нідзе не працуюць. Раней жанчына была судзімая.

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра гэта паведаміў старшы следчы Следчага камітэта Юры Багушэвіч.

## Скралі двое цялят

**ВАЛОЖЫН.** У ноч на 20 лютага ў вёсцы Бомбалы на прадпрыемстве "Сакаўшчына-Агра" невядомы скраў двое цялят.

Шкоду ацанілі ў 3 мільёны 488 тысяч рублёў.

Пакуль справа не раскрытая, ідзе следства. Будуць ацэненыя і дзеянні вартаўнікоў "Сакаўшчыны-Агра".

Пра здарэнне расказаў начальнік Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта падпалкоўнік юстыцыі **Віталь Юрэвіч**.

## Скралі грошы і залатыя ўпрыгожванні

**ВАЛОЖЫН.** Невядомы скраў 2 мільёны 600 тысяч рублёў, залатыя ўпрыгожванні: бранзалет, ланцужок з кулончыкам і пярсцёнак, два пазалочаныя пярсцёнкі і дзве сярэбраныя манеты.

Шкоду ацанілі на суму ў 11 мільёнаў рублёў.

Невядома, як злачынец пранік у кватэру, ні дзверы, ні вокны не былі пашкоджаныя.

34-гадовая жыхарка Валожына звярнулася ў міліцыю 21 лютага. Узбудзілі крымінальную справу.

Пра здарэнне расказаў начальнік Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта падпалкоўнік юстыцыі Віталь Юрэвіч.

**Галіна СІНІЦА.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Размалявалі лесвічную пляцоўку свастыкай

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каля 21 гадзіны ў нядзелю, 18 студзеня, невядомыя паміж восьмым і дзявятым паверхамі дома 139 па Вялікім Гасцінцы наўмысна размалявалі сцены, столь і вокны пляцоўкі.

Зламыснікі намалявалі цынічныя надпісы і выявы свастыкі. Гэтым нанеслі матэрыяльныя страты ЖРЭУ №4.

## Разбілі шклопакет ў краме

Невядомы каля 17:30 у нядзелю, 25 студзеня, разбіў шклопакет у гандлёвай зале крамы "Дысконт". Крама месціцца па адрасе: *вуліца Б. Хмяльніцкага, 8.*

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра гэтыя здарэнні, паведаміць па тэлефоне (80176) 77-79-59 ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Праводзіцца мерапрыемства "Нелегал"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Для супрацьдзеяння незаконнай міграцыі ад 25 да 27 лютага на чыгунцы праводзіцца спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Нелегал" .

Замежных грамадзян ці асоб без грамадзянства, якія парушылі правілы знаходжання ў Беларусі, могуць прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Яна прадугледжвае папярэджанне ці штраф да 50 базавых велічынь (90 мільёнаў рублёў), ці дэпартацыю.

За незаконнае перасячэнне мяжы Беларусі, арганізацыю незаконнай міграцыі ці парушэнне тэрміну ўезду прадугледжаная крымінальная адказнасць.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар прафілактыкі і прапаганды Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

4 САКАВІКА–ДЗЕНЬ МІЛІЦЫІ

# Змагацца даводзіцца і са сваркамі, і з кактусамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Скрадзеныя грошы з банкамата, сямейныя скандалы са збіццём, пах ацэтону ў пад'ездзе. Гэта толькі адзін працоўны дзень участковага міліцыянера 12-га адміністрацыйнага ўчастка Маладзечна.**

**Аляксандр Цярэшка** адказвае за правапарадак амаль на 20 вуліцах у адным з самых старых раёнаў горада – Гелянове. Працы, як прызнаецца, хапае заўсёды. І каб не быць галаслоўным, прапанаваў з ім падзяжурыць адзін пятнічны вечар.



Фота Наталлі ТУР.

Рабочы дзень ва ўчастковага Аляксандра Цярэшкі. Затрыманаму мужчыну твар падрапала жонка за тое, што той пагражаў яе забіць.

### "Штраф плаціць не буду, хочаце – саджайце"

– Аляксандр Сяргеевіч, як і дамаўляліся, я ў 18:00 на месцы, – тэлефаную перад зачыненымі дзвярыма кабінета ўчастковага.

– А ў мяне неспадзяваныя абставіны, – чую адказ Аляксандра Цярэшкі.

Праз пэўны час Аляксандр Сяргеевіч з'яўляецца з маладой жанчынай.

– Вы пасядзіце пакуль, а я аформлю затрыманне, – кажа міліцыянер.

Жанчыне, якую затрымаў Аляксандр Цярэшка, 26 гадоў. Яна ўжо адседзела ў турме сем год. Была замужам, у яе расце дзіця.

Цяпер адбывае пакаранне на так званай "дамашняй хіміі". Па прысудзе яна абавязаная знаходзіцца ў кватэры ў іншым мікрараёне горада. У пятніцу ж шляхі ўчастковага і парушальніцы перасекліся ў раёне Гелянова.

– У мяне быў выклік абсалютна па іншай прычыне, – гаворыць Аляксандр Цярэшка. – Патэлефанавала жанчына і сказала, што ў іх у пад'ездзе чуваць пах ацэтону. Прыйшоў праверыць. Сустрэў гэту жанчыну ў пад'ездзе. Яна была выпіўшая і лаялася на суседку. Прыйшлося забіраць.

– Можаце пісаць там колькі заўгодна, – кажа маладзіца, – ніякіх папер на штраф я падпісваць не буду. Я і папярэдні, дарэчы, аплачваць не буду. За дачу лжывых паказанняў.

– А нашто ты давала лжывыя паказанні, ты ж папярэджаная аб наступствах.

– А што вы вядзецеся на іх, як дзеці? Я па-жар-та-ва-ла.

Афармленне пратакола займае шмат часу. А пакуль жанчына расказвае ўчастковаму пра сваё жыццё:

– Не магу на працу ўладкавацца. Прачытаю аб'яву ў газеце, прыходжу, а яны кажуць: " Не трэба людзі, узялі ўжо". Так што не буду я штраф плаціць, можаш мяне закансерваваць. Дай тэлефон, я мужу свайму пазваню.

– А з сынам ты часта бачышся?

– Сын у свекрыві. Я з ёй пяць хвілін паразмаўляю толькі, а мне ўжо 139 артыкул (Даведка "РГ": артыкул забойства) свецiць.

Гутарку затрыманай перарывае паведамленне, якое прыходзіць па рацыі.

Па такім і такім адрасе скандал. Сужытнік збівае жанчыну. Адрас, відаць, Аляксандру Сяргеевічу даўно знаёмы. Адказвае дзяжурнаму, што закончыць справу і сходзіць.

Жанчыну забірае патрульная машына. Яе вязуць у РАУС. У калідоры чакае наступны чалавек.

### "Тры мільёны за два дні прагуляла, а цяпер шукае вінаватых"

Наступная наведніца прыйшла паскардзіцца на тое, што з яе банкаўскай карткі знялі грошы. За два дні з карткі зніклі тры мільёны.

Аляксандр Цярэшка прызначыў жанчыне сустрэчу назаўтра, калі забяра запісы з камер відэаназірання каля банкамата.

– Прыходзьце заўтра, будзем з вамі кіно глядзець, – кажа з наведніцай участковы.

Яна сыходзіць. Пытаюся ў міліцыянера:

**– У яе грошы скралі, а яна прыйшла да вас запісы паглядзець, а не ў міліцыю заяву пісаць?**

– Яна ўжо напісала.А праверку праводжу я. Два дні да гэтага яна тут так "галівудзіла", цяпер сама не можа ўспомніць, колькі грошай здымала, а колькі скралі.

– Ну пойдзем, паглядзім, што там за збіццё зрабілася. Вы фатаграфуйце асцярожна, – глядзіць на фотаапарат Аляксандр Сяргеевіч, – і з-за маёй спіны.

Пакуль ідзём да месца выкліку, усе мінакі вітаюцца з Аляксандрам Сяргеевічам. І жанчыны, што выходзяць з магазіна, і кампанія крыху нецвярозых хлопцаў, заўважыўшы Аляксандра Цярэшку, гучна павіталася:

– Сяргеіч, здарова. Хадзі да нас.

**– Вас тут усе ведаюць?**

– А як жа, больш за 10 гадоў ужо на гэтым участку працую.

Прыходзім па адрасе. Грукаемся ў дзверы. За дзвярыма цішыня. Толькі праз хвілін дзесяць па той бок дзвярэй чуецца нейкі рух. Дзверы адчыняе жанчына. Вельмі нецвярозая.

Уваходзім у пакой. На канапе сядзіць мужчына, глядзіць тэлевізар, курыць. Жанчына ўвайшла следам за намі, павалілася ў крэсла.

– Хто тэлефанаваў, што ў вас тут за скандал?

– Не, мы не тэлефанавалі. Бачыце, у нас усё ціха.

**У Маладзечне працуюць 20 участковых інспектараў міліцыі. На аднаго ўчастковага прыходзіцца больш за 5000 чалавек.**

Жанчыны, што выклікала міліцыю, дома не аказалася.

– Пятніца, – робіць выснову міліцыянер. – Мы можам схадзіць яшчэ па адным адрасе. Там можаце фатаграфаваць з успышкай, у кватэры даўно няма святла. Але, хутчэй за ўсё, там нікога не будзе таксама.

**– У пятніцу спраў больш, чым у будныя дні?**

– Заўсёды так бывае перад выхаднымі. Вы ж чулі, што амаль праз кожныя 10 хвілін прыходзяць паведамленні пра здарэнні ў тым ці іншым раёне горада.

Пакуль даходзім да патрэбнага дома, Аляксандр Цярэшка паспявае расказаць, што на выбар яго прафесіі паўплывала газета "На страже", якую выпадкова прынесла дадому маці Аляксандра, калі той вучыўся ў восьмым класе.

**У суткі на тэлефон дзяжурнай службы паступае каля 90 паведамленняў.**

Ад сваёй работы, прызнаецца Аляксандр Сяргеевіч, ён атрымоўвае задавальненне. Хаця даводзіцца разбірацца і ў сямейных скандалах, і ў скандалах паміж суседзямі. Працуюць і з раней судзімымі людзьмі, і з тымі, хто стаіць на ўліку.

– Але горш за ўсё працаваць з п'янымі і скандальнымі жанчынамі.

**– Дома пра працу гаворыце?**

– Не! – катэгарычна адрэзаў суразмоўца.

**– А Дзень міліцыі як адзначаць будзеце?**

– А вы з якой мэтай пытаецеся? – хітра прыжмурыўся Аляксандр Сяргеевіч. – Калі будзе выхадны, як звычайнае свята, з накрытым сталом дома і з падарункамі ад сям'і.

Як і прагназаваў Аляксандр Сяргеевіч, па прызначаным адрасе дома нікога не было.

На рацыю прыходзіць паведамленне пра тое, што ў Маладзечне ўгналі машыну. Аляксандр Цярэшка прапаноўвае падзяжурыць яшчэ. Адмаўляюся, але ўзамен прашу падзяліцца якой-небудзь кур'ёзнай гісторыяй.

– Аднойчы патэлефанавалі і сказалі, што ў пад'ездзе дома на падваконні стаіць нейкая ядавітая расліна. Прыехаў разбірацца, аказалася, гэта быў звычайны кактус.

**Наталля ТУР.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Наркотыкаў, якія не выклікаюць залежнасць, няма

**Чаму дзеці становяцца наркаманамі і ці магчыма гэтага пазбегнуць, разважае псіхолаг.**

У Беларусі большае колькасць хворых на наркаманію. Пераважна гэта маладыя людзі ад 18 да 29 год.

Цяга да наркотыкаў можа стаць трагедыяй для самога залежнага, яго сям'і і блізкіх. Але праблема пры ўсёй сур'ёзнасці даволі далікатная і патрабуе ўзважанага падыходу.

Наркаманія губіць асобу, выклікае складанасці са здароўем. Многія спецыялісты называюць наркаманію расстройствам. Гэта значыць, што чалавек паступова губляе самапавагу, губляе сяброў, потым сям'ю. Не можа добра працаваць, і паступова разбурае сябе.

Найчасцей у залежнасць трапляюць 15-16-гадовыя падлеткі. Іх падштурхоўвае жаданне быць, як усе, атрымаць новыя адчуванні, з цікаўнасці ці іншыя прычыны.

**1 сакавіка – Міжнародны дзень барацьбы з наркаманіяй.**

У сярэднім пасля пачатку хваробы жывуць шэсць год. Найчасцей паміраюць з-за перадазіроўкі. Шанец на выратаванне ёсць амаль на кожнай стадыі, але з цягам часу ўсё змяншаецца. Няма наркотыкаў, якія б не выклікалі залежнасць, няма людзей, для якіх наркотыкі былі б бяспечныя.

### Як наркотык мяняе чалавека

**Як даведацца, што чалавек ужываў наркотыкі:**

- ненатуральна расшыраныя ці звужаныя зрэнкі
- пачырванеўшыя ці мутныя вочы, незразумелае маўленне
- стан ап'янення без паху алкаголю
- кепская каардынацыя руху
- замаруджанасць, пагружэнне ў сябе ці суперактыўнасць.

З-за ўжывання наркотыкаў могуць змяніцца паводзіны: з'яўляюцца абыякавасць, агрэсіўнасць, частая змена настрою.

Галоўнае для таго, хто хоча вылечыцца, – жаданне стаць здаровым. Дактары лічаць, што калі чалавек год не ўжываў наркотык, то ён пазбавіўся ад залежнасці. Такіх людзей прыкладна 6%. Але і праз 20 год былога наркамана лічаць наркаманам, толькі называюць "пасіўным".

За сухімі лічбамі стаяць лёсы тысяч дзяцей. І мы міжволі задаём сабе пытанне: чаму яны становяцца наркаманамі? Чаму часам бацькі такія няўважлівыя і легкадумныя, чаму так позна звяртаюцца па дапамогу, а часам нават не паспяваюць звярнуцца?

Паводле дадзеных дактароў-нарколагаў, у 90% выпадкаў дарослыя заўважаюць наркатычную залежнасць дзяцей праз 1,5-2 гады ад першай спробы.

### Чаму ж дзеці становяцца наркаманамі

Найчасцей прычынамі становяцца страх, няўпэўненасць, няўдачы ў стасунках з сябрамі, эмацыйныя перажыванні, на якія немагчыма знайсці адказ. Часта падштурхоўвае непаразуменне ў сям'і, якое пераходзіць у адкрыты канфлікт.

Часам бацькі думаюць, што, пакуль дзіця малое, галоўнае – апрануць і накарміць, а выхоўваць трэба ўжо, як падрастуць. Але стэрэатыпы паводзін закладваюцца менавіта ў сям'і, калі капіруюць бацькоў. Калі дзеці бачаць, што бацькі п'юць і кураць, не здзіўляйцеся, калі тое самае пачнуць рабіць і яны. Часта першае знаёмства з наркотыкамі пачынаецца з цыгарэт, піва ці іншых слабаалкагольных напояў.

Не трэба маўчаць пра гэту праблему. Варта паставіць паміж ёй і сабой бар'ер з веры, любові да блізкіх і чалавецтва наогул, прынцыпаў, годнасці.

Развівайце ў дзяцей самапавагу, зацікаўленасць у хобі, любоў да навакольнага асяроддзя, імкненне весці здаровы лад жыцця, уменне разважаць і адстойваць свой пункт гледжання, рабіць правільны выбар і, калі трэба, сказаць "не".

**Кацярына КОЗЕЛ, псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва.**


Фота забяспечана Андрэем МАРКЕВІЧАМ.

На выставе Андрэя Маркевіча падтрымлівалі маці, Людміла Маркевіч, і бабуля, Алена Маркевіч.

● МАСТАЦТВА

# Мастак з Вілейкі: “Цяпер выказваю пачуцці чорна-белым колерам”

**ВІЛЕЙКА. Андрэй Маркевіч скончыў Мінскі дзяржаўны архітэктурна-будаўнічы каледж. Па размеркаванні застаўся ў Мінску, але сам прызнаецца, што пасля таго, як тэрмін размеркавання скончыцца, ён будзе толькі рысаваць.**

У будучым хлопец хоча заняцца анімацыяй, дызайнам, зняць фільм пра чалавечую абыякавасць.

### Думае чорна-белымі фарбамі

Андрэй Маркевіч пачынаў з жывапісу, маляваў каляровыя карціны. Але, як ён гаворыць, час такіх карцін для яго прайшоў. Цяпер працуе ў графіцы.

– Я навучыўся думаць чорна-белымі колерамі. Аказваецца, што і так можна выказаць усе свае пачуцці, думкі. Свае карціны ствараю маркерамі, тушшу, гелевымі ручкамі.

### Робіць начыста

Па словах хлопца, ён маляваў з дзяцінства, хаця ў яго сям'і ніхто не мае мастацкай адукацыі, не малюе. Яго бацька, **Аляксандр Маркевіч**, – будаўнік, маці, **Людміла Маркевіч**, працуе загадчыцай гаспадарчай часткі ў школе.

– Я пачынаю рысаваць, калі ў мяне ёсць пэўная задума, тады адразу раблю ўсё начыста. Калі ў мяне дрэнны настрой, сумна, я ўсё роўна рысую, малюю. У такі час пераважна ствараю партрэты і пейзажы.

### Партрэты знакамітасцяў у звычайным сшытку

Віляйчанін лічыць, што партрэты ўжо выйшлі з моды, іх замянілі фотаздымкі. Аднак навучыцца іх маляваць можа кожны, толькі для гэтага трэба цярпенне.

У курсавым праекце Андрэя ў дадатку ёсць партрэты, сярод якіх і выява яго дзяўчыны **Марыі**. Раней хлопец пераважна маляваў партрэты знакамітых людзей, рабіў іх у звычайным сшытку. Часам стварае партрэты, каб зрабіць прыемнае знаёмым на свята.

### Жыць трэба паўнавартасна – прыйдуць і ідэі

Андрэй Маркевіч адзначае, што ён не верыць у натхненне. Для таго, каб атрымалася сапраўды вартая карціна, трэба тытанічна працаваць.

– У чалавека няма пэўных ідэй, калі ён мала кантактуе з іншымі людзьмі, не ходзіць на мерапрыемствы, не падарожнічае. Няхай гэта будзе падарожжа па вашым горадзе, аднак некалі вы ўбачыце нешта незвычайнае, прыйдзе задума. Каб былі ідэі, трэба жыць паўнавартасна. Калі гэтага няма, то творца спасылаецца на адсутнасць натхнення.

Андрэй адзначае, што яму падабаюцца работы многіх мастакоў, у кожнага ёсць чаму павучыцца. Аднак ён не раўняецца на іх, жадае, каб уласныя работы былі адметныя, адлюстроўвалі яго ўнутраны свет.

### Хоча заняцца анімацыяй, зняць фільм

Андрэй Маркевіч у будучым хоча займацца анімацыяй, зняць фільм пра чалавечую абыякавасць.

– Гэта вялікая праблема нашага часу, калі людзі жывуць толькі сваімі клопатамі, не звяртаюць увагі на іншых. Я мяркую, што ў людзей проста нецікавая праца, дрэнны заробак, таму яны заганяюць сябе ў чатыры сцяны і ствараюць свой свет. Так не павінна быць, чалавек павінны жыць сярод людзей і ў нейкай ступені іх клопатамі.

### На карцінах тое, чым жыў 20 год

21 лютага ў выставачнай зале Вілейскага краязнаўчага музея імя Нікадзіма Сілівановіча адбылася выстава маладога мастака Андрэя Маркевіча “Юнацтва”. На карцінах усё тое, чым ён жыў на працягу 20 год.

Асноўная работа мае аднайменную назву “Юнацтва”. На ёй чалавек, які сядзіць на беразе. У яго мілы твар, але галоўнае – у поглядзе роздум над сэнсам жыцця, жыццёвымі праблемамі.

– 20 год – гэта час, калі трэба выбіраць свой лёс, людзей, з якімі пройдзеш па жыцці, каханую, – гаворыць Андрэй Маркевіч. – Я нават часта думаю, што позна задумаўся над сэнсам жыцця.

Больш за ўсё перад выставай Андрэй хваляваўся, што не ўсе зразумеюць, што ён хацеў сказаць сваімі карцінамі, палянуюцца паразважаць над іх сэнсам.

### У час выставы мастак прадставіць відэарад

– Многія мае знаёмыя могуць сказаць, што работы прыгожыя, – заўважае віляйчанін. – А хочацца, каб яны не проста паглядзелі, а і падумалі пра сэнс карціны.

Да выставы Андрэй дарабіў некаторыя карціны, падрыхтаваў відэарад, у ім – яго жыццё, адносіны да творчасці, фота работ.

Віляйчанін упэўнены, што мастакі могуць зарабіць грошай на творчасці. Толькі трэба правільна ацэньваць свае магчымасці.

Цяпер малады мастак не прадае карціны, рысуе для душы. Але заўважае, калі б вырашыў прадаць адну з работ, мінімальная цана была б 800 долараў.

**Галіна СІНІЦА.**


Фота afisha.yandex.ru.

Кадр з фільма “Батальён”.

● КІНО

## Ідзе фільм пра Першую сусветную пад Смаргонню

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. СМАРГОНЬ. У маладзечанскім кінатэатры “Радзіма” і ў вілейскім “Мір” цяпер у пракаце карціна “Батальён”, падзеі якой разгортваліся на лініі фронту каля Смаргоні.**

Фільм распавядае пра жаночы батальён **Марыі Бачкаровай**, які стварылі ў 1917 годзе для таго, каб падняць дух салдатам і пусцілі ваяваць пад Смаргонню.

У карціне зняліся папулярныя расійскія акцёры **Марыя Кажэўнікава**, **Марат Башараў**, які іграе Керанскага. Актрыса з Брэста **Яніна Малінчык** сыграла ролю Дусі. Рэжысёр – **Дзмітры Месхіеў**.

Рэпертуар кінатэатраў чытайце на 23-й старонцы.

**Аддзел інфармацыі.**

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Адкрылася выстава “Ашмяншчына вачамі сучаснікаў”

**АШМЯНЫ. Ад 12 лютага яна пачала працаваць у музеі імя Францішка Багушэвіча. Працягнецца да канца красавіка.**

– Упершыню выстава спачатку адкрылася не ў музеі, а 6 лютага ў райвыканкаме, – адзначыла дырэктар музея **Настасся Навіцкая**. – Яна была падрыхтаваная да 75-годдзя Ашмянскага раёна.

Цягам месяца людзі, якія хацелі паўдзельнічаць у конкурсе, дасылалі фотаздымкі з незвычайнымі бачаннем Ашмяншчыны. Усяго даслалі 40 работ.

### Рыхтуюць буклет з фотаздымкамі

Было дзве намінацыі. У намінацыі “Пейзажы роднага краю” лепшым прызналі фотаздымак “Сімвалы міру” **Юрыя Горыда**. Аўтар серыі фотаздымкаў “Чалавек нарадзіўся” **Святлана Муцянская** атрымала першае месца ў намінацыі “Падзеі і людзі”.

Гран-пры у **Аляксандра Навумчыка** за фотаздымак “Дзень Перамогі”.

– Многія ўдзельнікі вельмі здзівіліся, калі ўбачылі свае работы ў фармаце А3, – расказала Настасся Навіцкая. – Настолькі незнаёмымі, новымі яны ім здаліся.

У музеі ўжо рыхтуюць буклет з фотаздымкамі Ашмяншчыны. Пасля таго, як будзе падрыхтаваны тэкст, буклет надрукуюць.

**Галіна СІНІЦА.**

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## У Маладзечне пройдзе лекцыя, прысвечаная Язэпу Драздовічу

**МАЛАДЗЕЧНА.** 28 лютага, у суботу, а чацвертай гадзіне дня пройдзе лекцыя “Язэп Драздовіч – вечны вандроўнік”.

Яе правядзе маладзечанскі краязнаўца, пісьменнік, літаратуразнаўца **Міхась Казлоўскі.**

Падчас сустрэчы адбудзецца прэзентацыя кнігі “Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак”.

Лекцыя адбудзецца ў прыватнай гасцёўні па вуліцы Чыстай, 26.

**Аддзел інфармацыі.**


Архіў “РГ”.

КРАЯЗНАЎСТВА

# Што расказвае фота ўзарванага чыгуначнага моста

**СМАРГОНЬ. Як адшукалі рэдкі здымак часоў Першай сусветнай вайны і якую гісторыю ён адкрыў, расказвае пастаянны аўтар "РГ" краязнаўца Уладзімір Прыхач.**




Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Паштоўка дрэздэнскага выдавецтва.

У верасні спаўняецца сто год адной малавядомай падзеі Першай сусветнай вайны ў нашым краі, пошук звестак пра якую заслугоўвае не меншай увагі за саму падзею. У час работы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць", якая адбылася 16-19 мая 2007 года ў Смаргоні, удзельнікі мерапрыемства і краязнаўцы мелі магчымасць упершыню пазнаёміцца з невядомым нямецкім фотаздымкам.

Даўнейшае фота было змешчанае ў сучаснай кнізе **Паўля Дыстэльберта** "Варта на Усходзе". На ім быў адлюстраваны перакулены лакаматыў каля смаргонскіх Солаў. Аднак ніякай іншай дапаўняльнай інфармацыі пра гэты ваенны эпізод у самім творы не ўтрымлівалася, а па тагачаснаму здымку нельга было вызначыць ні месцазнаходжанне, ні час падрыву чыгуначнага пуцеправоду.

### Фота знайшлі на аўкцыёне

Фотаздымак пасля краязнаўчай канферэнцыі на некаторы час трапіў у асабісты архіў. Да таго моманту, пакуль не з'явіліся новыя матэрыялы, якія дапамаглі працягнуць пошук. У 2011 годзе на адным з замежных інтэрнэт-аўкцыёнаў быў выстаўлены новы фотаздымак падзеі, але з іншага ракурсу. На паштоўцы, якая была надрукаваная ў дрэздэнскім выдавецтве, утрымлівалася больш інфармацыі.

З подпісу пад фота можна было даведацца, што пасля падрыву чыгункі пад адхон пусцілі расійскі цягнік і адбылася падзея на перагоне Солы-Смаргонь. Сам збіты лакаматыў, яго тэндар, некалькі платформаў, адзін з вагонаў знаходзіліся недалёка ад разбуранага чыгуначнага моста, які пачалі ўзнаўляць нямецкія вайскоўцы.

Аднак і гэты фотаздымак не даваў магчымасці вызначыць, дзе магла адбыцца трагічная падзея. Не хапала інфармацыі пра памеры моста, у які бок накіроўваўся сам цягнік. Толькі знаходкі яшчэ двух новых фотаздымкаў апошняга часу далі магчымасць узнавіць некаторых дэталі гэтага ваеннага эпізоду Першай сусветнай вайны.

Адзін з іх мае подпіс: "Знішчаны чыгуначны мост паміж Вільняй і Мінскам". На здымку добра бачна даўжыня і форма моста. А так як на той час Лібава-Роменская чыгунка ў гэтай мясцовасці мела адну каляіну, то можна заўважыць і зрушаны адзіны яго пралёт. На іншым фота зафіксаваны лакаматыў пад нумарам 1553, серыі "О-д", гэта значыць, "асноўнага тыпу" з кулісным механізмам Джоя. На Лібава-Роменскай чыгунцы працавалі "джойкі" з нумарамі 1472-1577. Цягнікі серыі "О" ў перыяд ад 1890 да 1915 года сталі самымі масавымі ў лакаматыўным парку дарэвалюцыйнай Расійскай чыгункі.

### Цягнік збілі каля Солаў

Па дадзеных усіх фотадакументаў вынікае, што быў узарваны чыгуначны мост праз рэчку Сікуню каля адныменнага маёнтка, паблізу раз'езда нумар 12, які сёння добра вядомы як станцыя Солы. Цені ад лакаматыва і нямецкага вайскоўца на здымках дазваляюць сцвярджаць, што цягнік быў збіты ў час руху са Смаргоні ў бок Солаў.

Паступова знайшліся пацвярджэнні гэтай падзеі ў пісьмовых крыніцах, дзе ўтрымліваецца і меркуемая дата падзеі. З літаратуры пра Віленскую аперацыю рускай імператарскай арміі 1915 года стала вядома, што галоўнакамандуючы ўсходняга нямецкага фронту Гіндэнбург па радыё дае загад камандуючаму 6-га кавалерыйскага корпуса генералу Гарнье: "Да 15 верасня 1915 года 1-й і 4-й кавалерыйскім дывізіям перайсці і перарваць чыгунку Маладзечна-Вільня на ўчастку на паўночны-захад ад Смаргоні".

Такія дзеянні немцаў пацвярджае Аляксандр Свечын у даследаванні 1930 года "Искусство вождения полка", дзе адзначае: "Нямецкая кавалерыя перарвала ў многіх месцах чыгунку Маладзечна-Вільня і Маладзечна-Полацк, нападала на абозы, высылала прадпрымальныя раз'езды на некалькі пераходаў уперад. Цягнікі на перагоне Солы-Смаргонь ужо 15 верасня абстрэльваліся артылерыяй, і рух на чыгунцы тут спыніўся. Да вечара Солы і Смаргонь былі занятыя немцамі".

### Знішчаны мост не стаў перашкодай

Пачаліся жорсткія, зацятыя баі за гэтыя населеныя пункты, у выніку якіх яны апынуліся па розныя бакі лініі фронту. Перапыніўшы ў гэтым месцы рух на Лібава-Роменскай чыгунцы, кайзераўцы спынілі сілкаванне рускага войска, якое з баямі адступала з-пад Вільні. Але знішчаны мост пад Соламі не стаў перашкодай для рускай імператарскай арміі, баявы дух якой у той час яшчэ быў на вышыні. Далейшая барацьба за Смаргонь яскрава пацвердзіла гэта.

Каб высветліць сучасны стан мясціны і што сёння там нагадвае пра былую падзею, неадкладна была зробленая краязнаўчая вандроўка да чыгуначнага моста праз рэчку Сікуню. Пабудова новай чыгуначнай веткі з мостам да смаргонскай нафтабазы ў 1995 годзе сцерла некаторыя напаміны стогадовай даўніны.

Новы насып веткі парушыў той адхон, на якім знаходзіўся збіты лакаматыў, а паралельны сучасны мост закрыў старыя каменныя блокі першапачатковага моста і не даў магчымасці зрабіць фотаздымкі з былога ракурсу. На дзіва, да нашых дзён захаваўся каменны блок з высечанай датай пабудовы чыгуначнага моста "1872".

Выкажу яшчэ адно меркаванне наконт загадкавай і трагічнай падзеі. У паўтаракіламетровай адлегласці ад чыгуначнага моста на лясным ускрайку знаходзіцца пахаванне рускіх салдат Першай сусветнай вайны. У гэтым мемарыяльным месцы маглі знайсці свой апошні зямны спачын і ахвяры са збітага рускага цягніка. Спадзяюся, што далейшы пошук звестак у архівах, іншых пісьмовых крыніцах і ўспамінах дасць магчымасць канчаткова высветліць усе невядомыя бакі мінулай падзеі, лёс яе ўдзельнікаў і разбітай тэхнікі.

### Мемарыял будзе напамінам пра ваеннае мінулае

Мне вельмі імпануе праект Барыса Цітовіча абсталяваць у Заброддзі пад музейныя пакоі звычайныя вагоны цягніка. Такім чынам будзе аддадзеная даніна нашай удзячнай памяці тым ваенным падзеям, гэтаму віду транспарту і чыгуначнікам, якія прынялі ўдзел у вайне. Напэўна, адпаведнае месца знойдуць у экспазіцыі і матэрыялы гэтага пошуку.

Сённяшняе кіраўніцтва Беларускай чыгункі і самі чыгуначнікі цікавяцца сваёй прафесійнай гісторыяй, клапоцяцца пра стан помнікаў каля чыгункі, заўсёды падтрымліваюць розныя ініцыятывы па ўшанаванні падзей Першай сусветнай вайны. Прывяду толькі адзін паказальны прыклад. У 2005 годзе з іх дапамогай была ўзноўленая мемарыяльная шыльда і сам помнік у Залессі, яны добраўпарадкавалі абеліск і тэрыторыю брацкіх могілак каля яго, узялі над ім шэфства.

Таму будзе вартай увагі мая прапанова ўсталяваць каля чыгуначнага моста праз раку Сікуню, на ўзбочыне чыгуначнага пуці, банер з фотаздымкамі той трагічнай падзеі верасня 1915 года. Ён прыцягне ўвагу пасажыраў рэгіянальных і міжнародных ліній не толькі да гэтага ваеннага эпізоду, але да ўсёй гісторыі Першай сусветнай вайны. Убачыўшы праз акно вагона такі незвычайны напамін, кожны абавязкова прызадумаецца пра ваеннае мінулае.

**Уладзімір ПРЫХАЧ, Смаргонь.**

**Больш фота на сайце**




КАЛЯНДАР

**1 сакавіка.** 55 гадоў назад (1960) памёр Віктар Шутовіч, каталіцкі святар, культурны дзеяч, публіцыст, вязень савецкіх канцлагераў. Дзядзька Янкі Шутовіча. Быў высвенчаны ў 1913 годзе ў Вільні. Асуджаны польскімі ўладамі за казанні на беларускай мове. Займаўся асветніцтвам і нават ставіў спектаклі, што было зразумела: Віктар Шутовіч быў для сваіх прыхаджан больш чым ксёндз. Быў на парафіях у Лідзе, Тшцянным. Ад 1932 года – вікарый і прэфект у Харошчы каля Беластока. Служыў у мінскім Чырвоным касцёле (ад вясны 1944 да 1945). 26 студзеня 1945 арыштаваны савецкімі ўладамі, асуджаны на 10 гадоў турмы. Пасля вызвалення вярнуўся ў Мінск, атрымаў парафію (нелегальна, з 1956) у Барысаве, дзе і памёр. Апрацаваў зборнік "Калядныя песні", выдадзены Нінай Абрамчык у Берліне.

***

**2 сакавіка.** 1562 год. Нарадзіўся Крыштаф Мікалай Дарагастайскі (1562 – 1615), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, заснавальнік друкарні мяст. Ашмяна Мураваная (цяпер Муравана-Ашмянка, Ашмянскі раён). Доктар медыцыны. За баявыя заслугі атрымаў тытул барона Святой Рымскай імперыі.

***



**3 сакавіка.** 5 год з дня смерці (2010) Анатоля Рогача, выдатнага краязнаўцы, майстра спорту Беларусі па шашках, аднаго з аўтараў кнігі "Нарачанка і яе берагі". Нарадзіўся ў вёсцы Каралеўцы Вілейскага раёна 1 чэрвеня 1947 года.

***

**4 сакавіка.** 125 гадоў з дня нараджэння Вінцука Адважнага (сапр. Язэп Станіслававіч Германовіч,1890 – 1978), беларускага паэта, каталіцкага святара.

***

**5 сакавіка.** 15 гадоў назад (2000) у Мінску трапіў пад машыну і загінуў Мікола Ермаловіч, гісторык, літаратуразнавец.

***

**85 гадоў** з дня нараджэння Паўла Сцяцко, доктара філалагічных навук, прафесара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. На рахунку вучонага больш за 450 апублікаваных прац.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Простыя правілы, каб стаць шчаслівым

**МАЛАДЗЕЧНА. Псіхолаг Маладзечанскіх электрасетак Таццяна Жданава адзначае, што стаць шчаслівым можа кожны, толькі для гэтага трэба пастарацца і абзавесціся карыснымі звычкамі.**



У кожнага сваё шчасце. Аднаму, каб быць шчаслівым, дастаткова зляпіць снегавіка.

Фота Наталлі ТУР.

**1. Акружайце сябе шчаслівымі людзьмі.**

– Будзьце часцей побач са шчаслівымі, аптымістычнымі людзьмі, – адзначае псіхолаг. – Шчаслівыя людзі зараджаюць станоўчай энергетыкай, таму, верагодней за ўсё, вы будзеце ў будучым больш шчаслівыя.

**2. Часцей усміхайцеся і смейцеся**

Узгадвайце прыемныя моманты з вашага жыцця, якія выклікаюць у вас усмешку.

– Смех – лепшыя лекі, – сцвярджае Таццяна Жданава. – Калі чалавек смяецца, то ў мозгу выпрацоўваецца больш гармонаў, якія дазваляюць адчуваць сябе шчаслівым. Таксама смех зніжае адчувальнасць да болю і стрэсу. Дарэчы, лепш смяяцца рэгулярна. Лічыцца, што мозг рэагуе на рэгулярны смех гэтак жа, як цела на рэгулярныя трэніроўкі.

Пры гэтым важна не прыкідвацца шчаслівым. Калі вы будзеце ўсміхацца і пры гэтым думаць пра дрэннае, то стане яшчэ горш.

**3. Будзьце ўважлівыя да маленькіх перамог**

– Калі мы трацім час на тое, каб заўважыць прыемныя дробязі, мы атрымліваем большую эмацыйную аддачу, – гаворыць псіхолаг. – Гэта дапамагае людзям адчуваць сябе шчаслівымі на працягу дня.

**4. Цаніце простыя задавальненні**

Не адмаўляйце сабе ў задавальненні паласавацца марожаным, пагладзіць сабаку, пасядзець на лавачцы. Будзьце ўдзячныя таму, што маеце.

**5. Самі дарыце шчасце**

– Хоць у сутках толькі 24 гадзіны, пазітыўныя людзі трацяць час і на тое, каб самім рабіць дабро, – раіць псіхолаг. – Памятайце, што дабро заўсёды вернецца да вас па правілу бумеранга. Бескарысныя ўчынкі выдатна адлюстроўваюцца як на душэўным, так і на фізічным здароўі. І ў дэпрэсію такія людзі трапляюць радзей.

**6. Часам губляйце адчуванне часу**

Калі чалавек пагружаны ў працу, якая яго задавальняе, натхняе, то час для чалавека не ідзе, а імчыцца. З'яўляюцца новыя сілы ісці наперад, рабіць справу больш апантана.

**7. Варта навучыцца не толькі слухаць, але і чуць**

– Калі вы ўмееце слухаць, то вы адкрытыя для новых ведаў, – адзначае псіхолаг. – Гэтым паказваеце людзям упэўненасць у сабе і павагу да іх. Так вашы суразмоўцы не змогуць застацца раўнадушнымі, будуць адчуваць да вас станоўчыя пачуцці. Ад гэтага вы станеце больш шчаслівымі.

**8. Ва ўсім шукайце станоўчыя бакі**

Яшчэ заснавальнік пазітыўнай псіхалогіі **Марцін Селігман** паказаў адрозненне аптымістаў ад песімістаў. Песімісты вераць у тое, што дрэннае будзе працягвацца доўга, разбурыць усё, чаго яны дасягнулі. Аптымісты разглядаюць дрэннае ў сваім жыцці з іншага боку. Яны вераць, што гэта часова, і праблемы – гэта не іх віна. Непрыемнасці яны разумеюць, як выклік, і стараюцца яшчэ больш, каб выправіць сітуацыю.

**9. Слухайце больш вясёлай музыкі**

– Па сіле ўздзеяння музыка можа пасапернічаць з сілай масажу, – гаворыць псіхолаг. – Вясёлая альбо сумная, яна ўплывае на наша ўспрыманне свету. Падчас аднаго даследавання людзей папрасілі вызначыць па фотаздымках шчаслівыя альбо сумныя тыя, хто паказаны на іх. І ў большасці выпадкаў адказ вызначаўся ў залежнасці ад музыкі, якую ў гэты час слухалі людзі.

Таму варта слухаць больш радаснай музыкі, каб у жыцці бачыць больш радаснага.

**10. Займайцеся спортам**

Падчас фізічных нагрузак у арганізме чалавека выпрацоўваецца эндарфін, які робіць чалавека шчаслівым. Таксама трэніроўкі палягчаюць сімптомы дэпрэсіі, трывожнасці, падаўленасці, дзякуючы хімічным рэакцыям у мозгу.

Таксама трэніроўкі даюць людзям магчымасць любіць сваё цела. А гэта вельмі важна для добрага настрою. Цікавым фактам з'яўляецца тое, што калі чалавек нават не худзее альбо не дасягае пэўных вяршынь, то ён усё роўна любіць сваё цела.

**11. Гуляйце на свежым паветры**

– Прырода – гэта паліва для душы, – дзеліцца досведам Таццяна Жданава. – Таму нават 20-хвілінная прагулка на свежым паветры добра ўплывае на стан чалавека. Калі мы адчуваем сябе вялымі, то п'ём каву, а трэба проста прайсціся па вуліцы.

**12. Паляжыце некалькі лішніх хвілін у ложку**

Прабуджэнне і правільны перыяд сну – адзін са спосабаў добрага настрою. Таму не рэкамендуецца ўскокваць з ложка адразу, як празвінеў будзільнік. Паляжыце хвілiначку, гэта прыемная дробязь падніме настрой на цэлы дзень.

Людзі, якія прыкладаюць намаганні, каб быць шчаслівымі, лягчэй спраўляюцца з жыццёвымі цяжкасцямі.



Галіна СІНІЦА.
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

ПАДТРЫМКА

## Для інвалідаў-вазочнікаў ладзяць навучальны летнік

**Рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-вазочнікаў пачала набор кандыдатаў у штогадовым злёце актыўнай рэабілітацыі.**

Падчас злёту 30 адабраных курсантаў-вазочнікаў, якія нядаўна атрымалі траўму ці хваробу пазваночніка, будуць вучыць практычным навыкам паўнавартаснага жыцця. Пачынаючы ад сваіх правоў і льготаў і заканчваючы прафілактыкай хваробаў, навучаюць дасведчаныя інструктары, самі вазочнікі. У летніку дапамагаюць валанцёры.

Злёт актыўнай рэабілітацыі адбудзецца ў ліпені. Дакладныя даты мы паведамім пазней.

Удзел у летніку бясплатны.

Адабраныя кандыдаты, якія не маюць вазка актыўнага тыпу, атрымаюць яго на час летніка.

Праграма навучання ўключае трэніроўкі па тэхніцы язды на вазку актыўнага тыпу, стральбе з лука, настольным тэнісе, агульнафізічнай падрыхтоўцы, плаванні, аэробіцы.

Удзельнікі змогуць сыграць у баскетбол, рэгбі, іншае. Пройдуць спаборніцтвы па міні-марафоне і іншым.

Удзельнікам летніка прапануюць лекцыі па гісторыі інваспорту і паралімпійскага руху ў Беларусі, пра віды інваспорту. Распавядуць пра паводзіны вазочнікаў у экстрэмальных умовах, арганізацыю жыццёвай прасторы, вазок актыўнага тыпу, ільготы для інвалідаў, перспектывы працаўладкавання, самагігіену, сэксуальную граматнасць, правільнае харчаванне.

Удзельнікі абавязкова пазнаёмяцца з новымі сябрамі.

Для ўдзелу дастаткова запоўніць анкету на сайце www.raik.by і даслаць яе на электронную пошту inna. digilevich@gmail.com ці па факсе **(017) 392-11-89**. Выдатна, калі вы дадасце сваё фота.

**Яўген ШАЎКО,**
**Мінск.**

ГРАМАДСТВА

## Спецыялістаў для Беларускай АЭС будуць рыхтаваць ва Уральску

**АСТРАВЕЦ. Уральскі федэральны ўніверсітэт зоймецца падрыхтоўкай спецыялістаў для АЭС, што будуецца пад Астраўцом, па сумесных праграмах з Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэтам і Беларускім дзяржаўным універсітэтам інфарматыкі і радыёэлектронікі.**

Сумесная магістарская праграма мае працоўную назву "Электронныя сістэмы кантролю і кіравання фізічных установак".

Пасля візіту ў Мінск дэлегацыі з Уральскага ўніверсітэта на чале з першым прарэктарам **Анатолем Мацернам** БДУІР выказаў зацікаўленасць супрацоўнічаць з Інстытутам радыёэлектронікі і інфармацыйных тэхналогій ва Урале.

**Паводле рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Беларуская атамная станцыя".**

АДУКАЦЫЯ

## Маладзечанкі могуць паехаць на Міжнародны навукова-інжынерны конкурс у Пітсбург

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 20 да 22 лютага праходзіў навукова-інжынерны конкурс сярод вучняў школ і навучэнцаў каледжаў.**

У адборачным туры ў катэгорыі біялагічныя навукі адабралі 12 работ, сярод іх работы вучаніц сярэдняй школы №9 Маладзечна **Веранікі Руто і Ганны Ярмоленкі**. Яны прадстаўляць свой праект на другім этапе конкурсу.

Па выніках яго чатыры лепшыя праекты прадставяць нашу краіну на Міжнародным навукова-інжынерным конкурсе. Ён пройдзе ад 10 да 15 мая ў Пітсбургу, што ў Злучаных Штатах Амерыкі.

**Паводле аддзела спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Некаторыя вандроўнікі знаёмяцца з Барселонай на турыстычным аўтобусе. Ён запатрабаваны і зімой.


Фота Настасі РОЎДЫ.

Барселона з вышыні гары Манжуік.

# Барселона для турыста гарачая нават зімой

**Ці варта ехаць адпачываць у Іспанію зімой, колькі грошай на гэта спатрэбіцца, пра што трэба загадзя паклапаціцца і іншыя адказы на пытанні турыста, які вырашыў не шукаць дапамогі ў турагенцтвах.**

Вандроўку лепш пачаць планаваць загадзя. Хаця б заказаць білеты на самалёт.

### Дарога

Выгадней планаваць вылет і прылёт не ў Мінск, а, да прыкладу, у Вільню. Будзе ў два разы танней.

Калі да таго ж узяць білеты за некалькі месяцаў, можна на кожным зэканоміць яшчэ палову цаны.

Да Вільні дабірацца можна як на цягніку ці аўтобусе, так і на ўласнай машыне. Калі вы абіраеце апошні варыянт, трэба адкласці грошы на паліва, а да таго ж паклапаціцца аб атрыманні зялёнай карты на выезд за мяжу. Спатрэбіцца грошы і на аплату стаянкі. Затое такі варыянт найбольш камфортны. Асабліва, калі праз нязручны час прылёту і адлёту даводзіцца ў Вільні начаваць. Хостал ці гатэль, хутчэй за ўсё, абыдуцца даражэй.

### Жыллё

Другі не менш важны момант – выбар жытла ў Барселоне.

Заказаць пакой лепш за два-тры месяцы. У гэтым выпадку ёсць магчымасць выбіраць паміж рознымі варыянтамі і спалучаць цану з камфортам.

Хостал адназначна самы танны варыянт. Пакой на дваіх у цэнтры Барселоны на тыдзень зімой каштуе 170 еўра.

### Музеі

Каб у Барселоне не губляць час на пошук і выбар патрэбных музеяў, можна загадзя заказаць спецыяльную турыстычную карту Barselona-Card. Так яна танней, чым калі набываць на месцы ў Барселоне. Забраць яе трэба ў турыстычным цэнтры па прыездзе. Карта дае скідкі на наведванне звыш 40 музеяў. Каля 15 з іх можна наведаць бясплатна.

Больш за тое, разам з ёй выдаюць карту горада, на якой пазначаны ўсе музеі. Таксама атрымаеце праязны на ўсе віды транспарту ў пэўнай зоне. Яна ахоплівае практычна ўсю частку горада, дзе месцяцца асноўныя славутасці.

| **Расходы на арганізацыю паездкі (на дваіх)** | **Еўра** | **Рублі (па курсе 16 850)** |
|---|---|---|
| Два білеты на самалёт (туды-назад) | 180 | 3 033 000 |
| Багаж на самалёце да 15 кг, адзін чамадан (туды-назад) | 45 | 758 250 |
| Паліва для машыны на дарогу да Вільні (туды-назад) | 15 | 252 750 |
| Зялёная карта на машыну для выезду за мяжу | 30 | 505 500 |
| Стаянка ў аэрапорце (тыдзень) | 30 | 505 500 |
| Пакой у хостале на тыдзень (на дзве асобы) | 170 | 2 864 500 |
| Дзве турыстычныя карты BarcelonaCard | 108 | 1 819 800 |
| **Агульная сума** | **578** | **9 739 300** |

### Заўважанае ў паўсядзённасці

1. На тэрмометры +15, а барселонцы ў зімовых куртках і ботах. Еўрапейская зіма.
2. Уздоўж ходнікаў па ўсім горадзе стаяць альбо ровары, альбо скутары. Відавочна, паркавацца прасцей.
3. Шматлікія раёны Барселоны разбітыя на кварталы. Унутраныя двары схаваныя ад мінакоў. На карце выглядае прыгожа і правільна.
4. Іспанцы чытаюць газеты: на вуліцах, у кавярнях, парках.
5. Каталонцы часта ходзяць на чырвонае святло. Глядзяць не на святлафоры, а па баках.
6. Снедаць прынята ў кавярнях. Звычайная прапанова – круасан і кава.
7. Паэлья. Нацыянальная страва з рысу, падфарбаваная вострай прыправай шафранам, з дадаваннем аліўкавага алею. Акрамя гэтага ў паэлью могуць дадавацца морапрадукты, гародніна, курыца.


Фота Настасі РОЎДЫ.

Саграда Фамілія.


Фота Настасі РОЎДЫ.

Музей-тэатр Сальвадора Далі.

## Тры ў адным: архітэктура, мора, горы

**Для Барселоны тыдня можа быць і мала. Таму трэба вызначыць, што вы сапраўды хочаце там убачыць.**

За пяць дзён мы паспелі наведаць каля 25 месцаў. З іх і склалі топ тых, што найбольш уражваюць.

### 1. Дом Бальё

Незвычайных будынкаў Антоніа Гаўдзі, аднаго з найвядомейшых архітэктараў свету, у Барселоне шмат. Дом Бальё – жылы дом, пабудаваны ў 1877 годзе для тэкстыльнага магната Жозепа Бальё-і-Касановаса і перабудаваны Гаўдзі ў 1904-1906 гадах. Ён здзіўляе сваёй сувяззю з водным і жывёльным светам.

На ўваходзе можна ўзяць трубку з аўдыёгідам. Нябачны экскурсавод тлумачыць сімволіку формаў будынка: як знешніх, так і ўнутраных.

### 2. Музей навукі КосмаКайша

Для тых, хто цікавіцца фізікай – сапраўдная асалода. Для тых, хто не цікавіцца – яшчэ большая. Недарэмна ў 2006 годзе яго прызналі лепшым музеем навукі ў Еўропе.

КосмаКайша дае магчымасць убачыць фундаментальныя законы і з'явы прыроды. Такія, як радыяцыя, оптыка, законы Ньютана, законы вярчэння, уяўленне пра хаос, усё аб зямлі і атмасферы.

Дазнацца, што такое гены, жывыя клеткі, першыя экасістэмы, формы жывых істот.

Зразумець, калі з'явіліся нейроны, што такое розум і шмат іншага.

Галоўнае – усё гэта праз своеасаблівую гульню. Можна самому выбіраць, які дослед паглядзець, колькі разоў. Бо амаль усе яны запускаюцца праз націск на кнопку. Большасць з іх вельмі відовішчныя, хоць і падаюцца простымі.

Больш за тое, тут ёсць рэпрадукцыя ўчастка трапічнага лесу Амазонкі, дзе больш за 100 розных відаў жывёл і раслін: птушкі, рыбы, мурашы, атрутныя жабы, анаконда.

### 3. Саграда Фамілія

Самая фантастычная пабудова Гаўдзі. Пачалі будаваць у 1882 годзе і працягваюць па сёння. Таму з-за кранаў ацаніць усю неверагодную прыгажосць гэтага стварэння пакуль немагчыма. Аднак убачыць варта.

### 4. Гара Манжуік

На знакамітай гары стаіць Нацыянальны палац, дзе месціцца Нацыянальны музей мастацтва Каталоніі. Тут жа батанічны сад Барселоны, Алімпійскі стадыён імя Луіса Кампаніса. Непадалёк ад стадыёна – музей, прысвечаны Алімпійскім гульням 1992 года.

На гары таксама знаходзіцца музей аднаго з найвядомейшых каталонскіх мастакоў Жоана Міро. А таксама крэпасць Манжуік, пабудаваная ў 1640 годзе.

Адсюль адкрываюцца выдатныя краявіды Барселоны. Можна пракаціцца на фунікулёры, убачыць горад і мора зверху.

### 5. Парк Гуэль

Казачны парк, за які таксама трэба дзякаваць Гаўдзі. Як і ўсё ім створанае, выглядаюць пабудовы фантастычна, таксама з жывёльнымі і воднымі матывамі.

Звычайна парк раяць наведаць усім турыстам. Галоўнае – зайсці з правільнага боку, інакш можна вельмі доўга шпацыраваць проста па звычайным парку і не верыць, што тут нешта зрабіў сам Гаўдзі.

Дарэчы, тут жа можна наведаць і дом, у якім да 1925 года жыў архітэктар. Прапануюць таксама наведаць 4D і паглядзець фільм, прысвечаны творчасці Гаўдзі.

### 6. Музей-тэатр Сальвадора Далі

Месціцца ён не ў самой Барселоне, а ў невялічкім гарадку Фігарэс у гадзіне язды цягніком. Месца, дзе сапраўды можна адчуць сусветна вядомага мастака і трапіць у свет сюррэалізму. Ужо сам будынак з гіганцкімі яйкамі наверсе намякае, што гэта не проста музей у звычайным яго ўяўленні.

Унутры – тэатр. Там няма акцёраў, але самі залы, размяшчэнне ў іх скульптур, карцін, гульня колераў і незразумелых вокy формаў дазваляюць назваць музей тэатрам.

Таму калі вы ўжо даехалі да Барселоны, варта не паленавацца і заехаць у гэта месца.

Барселона шмат прапануе для турыстаў. Неверагодныя велічныя саборы, гатычныя вулачкі і атмасферныя плошчы. Незвычайныя музеі шакаладу, парфуму, эротыкі. Ёсць гіганцкі акварыум, дзе над галавой праплываюць акулы.

Цэны на музеі вар'іруюцца ад 3 да 20 еўра. Чым больш распіяраныя месцы – тым большыя цэны.

**Даведка "РГ". Фунікулёр** – транспартны сродак з канатнай дарогай для перавозкі людзей ці грузаў на невялікую адлегласць па крутой трасе.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

ЗАХАПЛЕННІ

# Легендарная “трэнажорка” працуе ў Маладзечне 40 год

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра легендарную “качу” “У Фёдаравіча”, што месціцца ў падвале дома, дзе дзіцячая стаматалогія, чулі, напэўна, усе маладзечанцы.**

Не адно пакаленне атлетаў выхаваў трэнер **Віктар Грыгор’еў**. У артыкуле пра тое, як трэнер сам збірае трэнажоры, чаму грошы для яго – не галоўнае і чаму ў трэнажорку не бяруць дзяўчат?

У 80-я гады, калі ў краіне стала актыўна адраджацца атлетыка, адкрываліся шматлікія ФАКі, Віктару Грыгор’еву было 22 гады. Тады малады, ініцыятыўны хлопец, захоплены спортам, марамі пра ідэальнае цела, вырашыў, што трэба адкрываць сваю спартыўную залу.

Вядома, што ў Саюзе трэнажораў нідзе нельга было купіць. Выйсце знайшлося ў замежных спартыўных часопісах. Там на глянцавых старонках былі сфатаграфаваныя дзіўныя прылады.

Вырашылі паспрабаваць зрабіць такія ж самі.

– Першым трэнажорам быў трэнажор на вертыкальную цягу. Я тады яшчэ варыць метал не ўмеў, прасіў зваршчыка, – кажа Віктар Грыгор’еў. – Зрабіў схемы, вытачыў дэталі. З металам тады дакладна праблем у краіне не было. Глядзеў, як зваршчык працуе, вучыўся ў яго. Потым стаў рабіць трэнажоры сам. І да гэтага ў нашай “трэнажорцы” няма ніводнага купленага трэнажора.

Потым быў перыяд у жыцці Віктара Грыгор’ева, калі ён стаў вырабляць трэнажоры па заказе і на продаж.

Цяпер Віктар Фёдаравіч займаецца трэнерскай дзейнасцю.

## “Камбікорм ужываць спартсмену не трэба”

Як прызнаецца трэнер, цяпер яго парады навічкам, якіх у залу ходзіць нямала, непатрэбныя.

– Начытаюцца інтэрнэтаў, камбікорму накупляюць і нашто ім той трэнер? Але потым, калі бачаць, што вынік не такі, як хацелася б мець, ідуць раіцца і трэніравацца пад наглядам.

Для тых, хто прыйшоў у залу ўпершыню або не ведае, з чаго пачынаць трэніроўкі, Віктар Грыгор’еў распрацаваў план заняткаў на два гады(!) наперад, які вісіць на ўваходзе ў залу.

**– За які час вы можаце з хлюпіка зрабіць атлета?**

– Заняткі ў зале не павінны быць мэтай хутка нечага дамагчыся. Гэта лад жыцця. Прыйшоўшы раз, уцямце сабе, што гэта на ўсё жыццё. А цела пачынае мяняцца месяцаў праз пяць. І то, калі да рэгулярных трэніровак дадаць яшчэ правільнае харчаванне.

Да спецыяльнага спартыўнага харчавання Віктар Грыгор’еў ставіцца скептычна. Ён лічыць, што паасобнае харчаванне, трэніроўкі праз дзень і бег у выніку дадуць эфект не меншы, чым злоўжыванне нейкімі дадаткамі.

– Гэта як з загарам. Прыбяры сонца – і загар знікне. Так і тут. Перастань прымаць спецыяльныя дадаткі – і цела зноў вернецца да першапачатковага стану.

## “Дзяўчатам у нас не спадабаецца”

**– Ці праўда, што вы наўмысна не бераце дзяўчат да сябе?**

– Гэта не зусім так. Дзяўчаты самі да нас другі раз не прыходзяць. Зала ў нас вельмі брутальная. Мужчынская. Цяжка дзяўчынкам у нас. І распранальня ўсяго адна.

Але наведніца залы **Вікторыя Кузьмянкова** зусім не лічыць, што гэта зала не для яе.

– Я хаджу сюды ўжо два з паловай гады. Упершыню прывёў мой хлопец. Сказаў: будзеш займацца! Вось разам ходзім.

Вікторыя прызнаецца, што ёй гэта зала зусім не здаецца нейкай жудаснай:

– Хаця даводзіцца назіраць, як прыходзяць дзяўчаты, пакруцяць носам і больш тут не з’яўляюцца. А мне падабаецца, што кошт заняткаў вельмі танны – у месяц прыкладна 40 тысяч рублёў.

**– Хлопцы не крыўдзяць?**

– Ха, яшчэ хто каго.

На пытанне, чаму мініяцюрная дзяўчынка выбрала заняткі ў “трэнажорцы”, а не танцы, ёгу ці фітнес, Віка адказала:

– З мужчынамі зносіны прасцей. Калі няправільна робіш практыкаванне, то яны заўсёды пакажуць, як трэба рабіць правільна.

Яшчэ адзін наведнік залы, 11-класнік **Арцём Валынец**, наведвае залу каля двух гадоў. Але першыя змены ў целе заўважыў ужо праз месяцы два.

Аднойчы прачнуўшыся раніцай, вырашыў, што хоча займацца ў трэнажорнай зале. І за два гады ні разу не парушыў аднойчы дадзенае сабе слова. У распарадак тыдня даволі хутка ўвайшло наведванне трэнажорнай залы. Правільнае харчаванне ўжо не падаецца Арцёму нечым звышнатуральным.

– Дзіўна, але звычка займацца ў зале стала такой жа неабходнасцю, як раніцай чысціць зубы. Трэба, і гэта не абмяркоўваецца.

У трэнажорную залу пажадана пачаць хадзіць з 14 гадоў, падсумаваў трэнер Віктар Грыгор’еў. Раней пачынаць трэніроўкі не мае сэнсу, таму што цела яшчэ не сфарміраванае і верагоднасць траўмаў ад гэтага павялічваецца.



Фота Наталлі ТУР.

Вікторыя Кузьмянкова – адзіная дзяўчына ў зале, якую не палохае ні мужчынская абстаноўка, ні суровы трэнер.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com


Фота Кацярыны ПІЛЬНІК.

Адным са спаборніцтваў была стральба з пнеўматычнай вінтоўкі.

НАВІНЫ

## “Волаты” сышліся ў мнагаборстве

**МАЛАДЗЕЧНА. Спаборніцтвы па мнагаборстве “Тры волаты” прайшлі на базе гімназіі 10 21 лютага.**

Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі “Маладзік” і гімназія №10 заявілі для ўдзелу пяць каманд. У праграму мнагаборства ўваходзілі чатыры спартыўныя спаборніцтвы.

Спачатку ў ціры гімназіі юнакі спаборнічалі ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі. Самымі трапнымі былі **Юры Лаўрышчаў**, **Адам Бекінг** і **Кірыл Казееў**.

На перакладзіне сярод юнакоў 13-15 гадоў зноў вызначыўся Юры Лаўрышчаў, які падцягнуўся 17 разоў. А ва ўзроставай групе 10-12 гадоў не было роўных **Івану Гамолку** (11 разоў).

Пераможцай у эстафеце стала каманда “Страла”, тым самым апраўдаўшы сваю назву. А званне “Самы спрытны” атрымаў **Міхаіл Прызба**.

**Вольга КЛІМЯНОК, Дар’я СВІРЫДА, школа журналістыкі “Маладзік”.**

## Маладзечанец у конкурсе заняў другое месца

**МАЛАДЗЕЧНА.** Да конкурсу **Кірыл Казееў** пад кіраўніцтвам выкладчыцы дадатковай адукацыі **Надзеі Зелянко** падрыхтаваў офлайн версію сайта “Маладзік”.

Кірыл – навучэнец аб’яднання па зацікаўленасці “Камп’ютарны дызайн”.

– У гуртку я займаюся каля двух год, выключна для сябе, – падзяліўся малады чалавек. – Калі яшчэ перамагу ў разнастайных конкурсах, гэта будзе выдатна.

У конкурсе Кірыл Казееў заняў другое месца.

У будучым хлопец хоча рабіць мультфільмы і апрацоўваць музыку.

Конкурс навукова-тэхнічнай творчасці “ТэхнаІнтэлект” прайшоў 20 лютага ў Жодзіне ў цэнтры тэхнічнай творчасці моладзі.

**Галіна СІНІЦА.**

## Міліцыя правядзе турнір па грэка-рымскай барацьбе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Шосты рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе сярод юнакоў пройдзе ў Маладзечне 5-6 сакавіка. Турнір будзе прысвечаны 55-годдзю ўтварэння Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў (РАУС).

Турнір пройдзе ў зале грэка-рымскай барацьбы на Ясінскага. У спаборніцтвах прымуць удзел каля 300 юных спартсменаў класічнага стылю ва ўзросце 14-15 гадоў.

Адзінаборствы пройдуць у вагавых катэгорыях ад 32 да 69 кілаграмаў.

## У Лядовым палацы згуляе зборная па хакеі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У ходзе падрыхтоўкі да чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў Чэхіі з 1 па 17 мая, каманда **Дэйва Льюіса** правядзе восем таварыскіх сустрэч. Шэсць з іх – з будучымі сапернікамі па групе В.

2 красавіка ў спартыўна-забаўляльным цэнтры адбудзецца матч паміж камандамі Беларусі і Латвіі. Пачатак у 19:00.

Каманда “Дынама-Маладзечна” выйшла ў плэй-оф чэмпіянату краіны па хакеі. Першым сапернікам маладзечанцаў у плэй-оф стане сталічная каманда “Юнацтва”. Паядынак адбудзецца ў чацвер, 26 лютага, у Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**

## Маладзечанцы паўдзельнічаюць у конкурсе ў Мінску

**МАЛАДЗЕЧНА.** Конкурс па суднамадэльным спорце пройдзе ад 28 лютага да 2 сакавіка ў Мінску.

17 навучэнцаў з цэнтра творчасці дзяцей і моладзі “Маладзік” прадэманструюць свае сілы ў 16 класах і камандным заліку.

**Наталля КАЗУЛЬКА, метадыст цэнтра творчасці “Маладзік”.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА




Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

**Людзям грошы рукі грэюць, а ката — банкамат!**

**Камент-эксперт Rh.by**

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Адбудзецца выстава мастака з Вілейкі Андрэя Маркевіча

Вельмі ўсцешаная поспехамі маладога чалавека. Бо сёння ўсе наракаюць на моладзь, што яна такая-сякая. Працаваць не хоча, а хоча жыць прыгожа. Не ўся моладзь аднолькавая. І вельмі добра, што яна хоча многага. Калі чалавек у сваім жыцці задавольваецца малым, то ён і да старасці праседзіць у інтэрнацкім пакоі. А калі хоча шмат чаго, то і дасягне вышынь. І не трэба казаць, што моладзь не хоча працаваць. Яна працуе так, што вы, можа, і палову ў сваім жыцці таго не рабілі. Яна працуе шмат, умее працаваць і дабівацца поспехаў. Акрамя таго, у яе ёсць магчымасць паездзіць па свеце, паглядзець, як жывуць людзі, пераняць іх досвед, прывезці адтуль ідэі і ўвасобіць у жыццё тут. Гэтыя маладыя людзі разумныя, вясёлыя, адкрытыя. І я ведаю гэту моладзь. Гэта мае калегі, героі вашых публікацый, дзеці маіх знаёмых і блізкіх... Вядома ж, усялякіх людзей хапае. ***EVA***

### На Валожыншчыне спілавалі "па няведанні" 200-гадовы дуб

Прычыны: адсутнасць экалагічнага выхавання, адсутнасць любові да радзімы, адсутнасць мазгоў. ***Хведзя***.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | 1 | | | 8 | |
| 3 | | 5 | | 4 | | | | |
| | | | 7 | | | 5 | | 4 |
| | | | | | | 8 | | 6 |
| 7 | | | 1 | | 8 | | | 9 |
| 6 | | 4 | | | | | | |
| 5 | | 1 | | | 6 | | | |
| | | | | 8 | | 4 | | 1 |
| | 9 | | | 2 | | | 5 | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Насарог і жырафа**" (лірычная казка), *Х.Гюнтэр*
1 сакавіка – у 12:00

"**Тыграня Петрык**" (музычная казка), *Х.Янушэўская*
15 сакавіка – у 12:00

"**Доктар Айбаліт**" (казка-прыгода), *В.Карастылёў*
22 сакавіка – у 12:00

"**Казкі з куфэрка**" (спектакль-імправізацыя), *А.Жугжда*
29 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27**

УНП 600136804

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Губка Боб у 3D**" (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 лютага – у 15:00
1 сакавіка – у 14:30; 19:00
3 сакавіка – у 19:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, фантастыка "**Невідзімкі**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Узыходжанне Юпітэр**", 3D (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
1 сакавіка – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Трылер "**Рабаванне па-амерыканску**" (ЗША, Расія, 2014, з 16 год)
3 сакавіка – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, крымінал, камедыя "**Kingsman: Сакрэтная служба**" (Вялікабрытанія, 2014, з 18 год)
28 лютага – у 19:30
4 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Меладрама, драма "**Пяцьдзясят адценняў шэрага**" (ЗША, 2014, з 18 год)
27 лютага – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
2 сакавіка – у 21:00 (45 000 рублёў)

Гістарычная ваенная драма "**Батальён**" (Расія, 2014)
27, 28 лютага – у 17:00
2 сакавіка – у 18:30
4 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі "**12 месяцаў. Новая казка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 лютага – у 11:00, 13:00
1 сакавіка – у 12:30
5 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыйная меладрама, крымінал "**Фокус**" (ЗША, 2015, з 16 год)
27 лютага – у 19:30 (цана білета: 45 000 рублёў)
28 лютага – у 22:00 (50 000 рублёў)
1 сакавіка – у 21:00
3 сакавіка – у 21:30
5 сакавіка – у 19:00 (цана білета: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Робат па імені Чапі**" (ЗША, Мексіка, 2014, з 16 год)
5 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Любімчыкі ў пошуках вясёлкі**" (Іспанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 лютага – у 14:30
1 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Сямейны "**Дзённік мамы першакласніка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 лютага – у 16:30
1 сакавіка – у 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Моладзевыя вострасюжэтныя прыгоды "**Схватка**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 сакавіка – у 21:30
4 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
27 лютага – у 16:30 (цана білета: 30 000 рублёў)
1 сакавіка – у 17:30
3 сакавіка – у 18:30
5 сакавіка – у 21:00 (цана білета: 35 000 рублёў)

Крымінал "**Ровер**" (Аўстралія, 2013, з 16 год)
27 лютага, 4 сакавіка – у 21.00
28 лютага – у 19:00
2 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў



Фота kinopoisk.ru.

**Кадр з фільма "Ваўкі".**

Фэнтэзі "**Ваўкі**" (Францыя, 2013, з 16 год)
27 лютага – у 19:00
28 лютага – у 21:30
1 сакавіка – у 19:30
3 сакавіка – у 21:00
5 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 лютага, 1 сакавіка – у 17:30
Цана білета – 30 000 рублёў

Камедыя "**Воўк з Уол-Стрыт**" (ЗША, з 18 год)
27 лютага – у 19:30
28 лютага – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Пабудзь у маёй шкуры**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
28 лютага – у 18:00
1 сакавіка – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Гара самацветаў**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
28 лютага, 1 сакавіка – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Меладрама, камедыя, крымінал "**Фокус**" (2D, ЗША, з 16 год)
27 лютага – у 18:00
28 лютага, 1 сакавіка, – у 20:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Гісторыя, ваенны, драма "**Батальён**" (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
27 лютага – у 20:00
1 сакавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі "**12 месяцаў: Новая казка**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
28 лютага – у 14:00
1 сакавіка – у 16:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Узыходжанне Юпітэр**" (3D , ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 лютага – у 16:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Губка Боб**" (3D, ЗША, Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 лютага – у 18:30
Цана білета – 30 000 рублёў
1 сакавіка – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59.**

## ГАРАСКОП

**(27 ЛЮТАГА – 5 САКАВІКА)**

**Авен.** Думайце, перш чым гаварыць. Не выкарыстоўвайце словы для таго, каб пакрыўдзіць чалавека. Калі вы зробіце гэта, назад дарогі ўжо не будзе.

**Цялец.** Любоў – гэта адказ на любое пытанне. Любоў – гэта тое, чаму мы тут. Гэта сіла, якая рухае светам. Дзяліцеся ёй і выказвайце яе кожны дзень. Рабіце свет лепшым.

**Блізняты.** Калі вы ведаеце, што такое шчасце, то пастарайцеся захаваць тое адчуванне як мага даўжэй. І часцей вяртайцеся да гэтага стану.

**Рак.** Памятайце пра сябе ў першую чаргу. Не будзьце самаўлюбёнымі, але ведайце, што самы важны для вас чалавек – гэты вы самі.

**Леў.** Часцей выбірайцеся ў падарожжы. Радасць і станоўчыя ўспаміны нашмат важней за матэрыяльныя рэчы.

**Дзева.** Удзячнасць робіць чалавека шчаслівейшым. Прычым не толькі таго, каму яна адрасаваная, але і таго, хто яе гаворыць. Не забывайце дзякаваць людзям за ўсё, што яны для вас робяць.

**Шалі.** Часцей заставайцеся сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце. Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займееце ўнутраны спакой.

**Скарпіён.** Памятайце, што самыя здаровыя і прыгожыя людзі – гэта тыя, якіх нічога не раздражняе.

**Стралец.** Хочацца лётаць, аднак час ад часу прыйдзецца спускацца на зямлю і займацца паўсядзённымі руціннымі справамі. І ўсё ж гэтыя дні ўселяць аптымізм, падораць радасныя і незабыўныя моманты.

**Казярог.** Да ўсяго ў жыцці трэба адносіцца спакойна, нават калі ўзнікаюць цяжкасці. Сітуацыя заўсёды мяняецца да лепшага, трэба толькі дачакацца гэтага моманту.

**Вадалей.** Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі. Вашы разважанні вельмі важныя, але інтуіцыя – гэта ваша суперсіла. Яна выкарыстоўвае ваш досвед і жыццёвую мадэль, каб знайсці адказ на любое пытанне. Бывае, яна ўзнікае спантанна, і лепш прыслухацца да яе.

**Рыбы.** У вас будуць мільёны (!) магчымасцяў, каб увасобіць у жыццё любыя планы, нават самыя патаемныя і неймаверныя. Так што бярыце лейцы лёсу ў свае рукі і кіруйце імі так, як вам самім хочацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
ТэлетыДзень 27

## ● НАДВОР'Е

**28 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +2 | | +2 / +4 | | +3 / +6 | | +3 / +3 | |
| | 739 | ← 3 | 741 | ↗ 1 | 740 | ↖ 4 | 738 | ↖ 4 |
| Вільня | +2 / +2 | | +2 / +4 | | +3 / +5 | | +4 / +4 | |
| | 748 | ← 3 | 749 | ↗ 2 | 748 | ↑ 3 | 746 | ↖ 5 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.03
Захад 18.45
Даўжыня дня 10.42

Усход 13.42
Захад 04.58
Квадра 2

Віцебск: +3 / +3, 749, ↗ 2
Гродна: +3 / +5, 746, ↖ 5
Мінск: +2 / +4, 741, ↗ 1
Магілёў: +3 / +4, 748, ↑ 2
Брэст: +4 / +9, 747, → 1
Гомель: +3 / +6, 751, ↙ 3

### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Вілейка**

- Мінімальная тэмпература -24,6 °С у 1955 годзе
- Максімальная тэмпература +8,8 °С у 1989 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 11,4 мм у 1961 годзе

Назіранні за 59 год. Паводле meteoinfo.by

● ЗДАРЭННІ

# Бабуля не ведала, што на ўчастку растуць каноплі

## Хлопцы з іх рабілі наркотыкі

**ВАЛОЖЫН. Трое маладых людзей у верасні былі ў мястэчку Ракаў. У адным з агародаў яны знайшлі каноплі. Сарвалі і зрабілі з іх наркатычныя рэчывы, якія сталі ўжываць.**

Жанчына, у якой на ўчастку раслі каноплі, сама і не ведала пра гэта. Частка ўчастка зарасла травой, сярод яе былі і каноплі.

Пра гэта ў міліцыю паведаміла сужытніца аднаго з маладых людзей. Яны гатавалі наркотыкі з канапель у яе агародзе.

Два маладзёны былі раней судзімыя. Адзін несудзімы, але часам ужываў наркотыкі і спіртныя напоі. Па месцы жыхарства ў яго добрая характарыстыка.

Адзін з маладых людзей 1988 года нараджэння (27 гадоў), другі – 1991 года нараджэння (24 гады), трэці – 1994 года нараджэння (21 год).

У лютым скончыўся разгляд справы па абвінавачанні іх у незаконным абароце наркатычных сродкаў. Маладзёнам пагражае пазбаўленне волі ад двух да пяці гадоў.

Пра здарэнне паведаміла старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**.

**Галіна СІНІЦА.**

# Чытайце праз тыдзень:

● **Як школа падрывае здароўе дзіцяці. Чаму псуецца зрок і як спыніць гэты працэс? На гэтыя і іншыя пытанні адкажа доктар.**

● ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

Ёсць выказванне "не паспееш і вокам міргнуць", таму што вока – самая хуткая мышца.

***

Дзяўчаты міргаюць у два разы часцей, чым хлопцы.

**Паводле vsefacty.com**

# 23-гадовы хлопец збіў мужчыну і забраў рэчы

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 лютага 37-гадовы мужчына вяртаўся а палове першага ночы дадому. Ён накіроўваўся да Віленскай.**

Каб скараціць шлях, вырашыў пайсці дварамі па Вялікім Гасцінцы.

Невядомы збіў мужчыну, забраў мабільны тэлефон, банкаўскую картку і залатыя пярсцёнак. Незнаёмца адшукалі на наступны дзень па мабільным тэлефоне пацярпелага. Ім 23-гадовы хлопец пачаў карыстацца на наступны дзень.

Цяпер ён затрыманы. Раней быў судзімы за маёмаснае злачынства.

Пра гэта паведаміў старшы следчы Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Галіна СІНІЦА.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 9 (1035) 27.02.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 257. Падпісана ў друк у 9.00 26.02.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.